Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 16 (4919) 21 красавіка 2017 г.





Фота Кастуся Дробава.

# ЗВОНкія ІМЁНЫ, НАТХНЯЛЬНЫЯ НАДЗЕІ

Разлівістыя і радасныя галасы званоў нясуцца далёка — прыкмета Вялікоднага тыдня. У гэтыя дні кожнаму, хто пажадае, даецца магчымасць уласнаручна біць у званы. І менавіта званы сталі сімвалам першага Велікоднага фестывалю, які ўпершыню прайшоў у Мінску: святочны перазвон быў пралогам кожнага канцэрта. Дзеля гэтага ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі была ўсталяваная перасоўная званіца — такім чынам музыкантаў падтрымала школа званароў Мінскага епархіяльнага ўпраўлення, яе ўзначальвае Багдан Бярозкін, выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Менавіта гэтая навучальная ўстанова, а таксама Рэспубліканская гімназія-каледж пры акадэміі музыкі падрыхтавалі свята сустрэч з высокім мастацтвам.

Новы фестываль стаў яшчэ адным буйным праектам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, але адметны ён тым, што дапамагае далучыцца да духоўнай культуры праз повязь пакаленняў, што стваралі ў мінулыя гады славу беларускага музычнага мастацтва, цяпер працягваюць падтрымліваць яго ўзровень, калі перадаюць майстэрства моладзі. Менавіта людзі, іх талент і надзеі, што яны дораць, стварылі славу і галоўнай айчыннай вышэйшай навучальнай установе ў галіне музыкі. Нездарма фестываль нарадзіўся ў год, калі Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі рыхтуецца да 85-годдзя з моманту заснавання. Кацярына Дулава, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па адукацыі і навуцы, культуры і сацыяльным развіцці, абяцала: для канцэртаў запрасілі выдатных музыкантаў, выхаваных беларускай школай. І тыя, што яшчэ вучацца, таксама паказалі сябе. Гэта своеасаблівая творчая справаздача розных факультэтаў. Да арганізацыі фестывалю спрычыніліся Міністэрства культуры і спецыяльны фонд прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі. Гэтая моладзь дае падставы ганарыцца ёю: шмат якія выдатныя музыканты, выхаваныя ў Беларусі, скараюць канцэртныя залы ва ўсім свеце. І з задавальненнем выступаюць на сцэне роднай акадэміі музыкі: гасцямі Велікоднага фестывалю сталі гітарыст Павел Кухта і цымбаліст Міхаіл Лявончык, піяністы Аляксей Пятроў і Ігар Алоўнікаў... Ёсць яшчэ магчымасць патрапіць сёння на Гала-канцэрт «Свет музычных талентаў»: тут студэнцкі хор (пад кіраўніцтвам І. Бадзяка), студэнцкі сімфанічны аркестр (кіраўнік А. Іваноў), ансамбль салістаў Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (пад кіраўніцтвам У. Перліна), зоркі Вялікага тэатра Беларусі Настасся Масквіна і Уладзімір Громаў. Гэтыя сустрэчы — сапраўдны падарунак і яшчэ адна магчымасць паслухаць цудоўных айчынных музыкантаў.

Марыя АСІПЕНКА

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступае са штогадовым Пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу падчас сумеснага пасяджэння Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Тэлевізійную версію паслання пакажуць у вячэрнім эфіры беларускіх тэлеканалаў. На мерапрыемства запрошаны вышэйшыя службовыя асобы краіны, члены ўрада, кіраўнікі органаў дзяржаўнага кіравання, найбуйнейшых прадпрыемстваў і сродкаў масавай інфармацыі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з юбілеем народную артыстку РСФСР Святлану Немаляеву. «Дзякуючы прыроднаму абаянню, артыстызму і выключнаму акцёрскаму майстэрству, Вы заваявалі шчырую любоў і прызнанне публікі не толькі ў Расіі, але і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы пажадаў актрысе, каб яе плённая дзейнасць і ў далейшым дарыла гледачам радасць і добры настрой, садзейнічала ўмацаванню культурных сувязей паміж народамі Беларусі і Расіі.

✔ Чатырохметровую харугву гетмана Крыштофа Радзівіла ўпершыню прадставяць на выстаўцы ў Мірскім замку. Сёння стартуе Міжнародны сумесны праект «*Ultima ratio regum*. Беларусь у Паўночных войнах сярэдзіны XVII — пачатку XVIII стагоддзя». Ён стаўся вынікам працы музея «Замкавы комплекс “Мір”» і Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, рэгіянальнага музея Біржайскага краю «Села» (Літва), Музея арміі (Швецыя). Значны ўнёсак ва ўвасабленне ідэі ў рэальнасць зрабілі міжнародны праект *MOST* і Інстытут імя Гётэ. Адна з галоўных задач — распавесці шырокай аўдыторыі перш за ўсё гісторыю людзей, грамадстваў, тагачасных таварыстваў, дзяржаў, ваенных інстытутаў, ваеннай культуры, іх цесную ўзаемасувязь і ўзаемаўплыў. Работа над маштабнай выстаўкай працягвалася два гады.

✔ У Мінскім Палацы мастацтваў адкрылася рэспубліканская выстаўка сучаснага мастацтва «Вяртанне вобраза. Да 130-годдзя Марка Шагала». Паводле першага намесніка міністра культуры Ірыны Дрыга, у гісторыі суверэннай Беларусі гэта трэцяя агульнарэспубліканская экспазіцыя сучаснага мастацтва, якое, аднак, упершыню прадстаўлена ў такім шырокім маштабе. Можна пабачыць канцэптуальныя праекты аўтараў з Мінска і абласных гарадоў, творы вядомых і маладых мастакоў, студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У экспазіцыі дэманструецца работа Марка Шагала «Закаханыя» з калекцыі Белгазпрамбанка, творы айчынных і замежных мастакоў — удзельнікаў шагалаўскіх пленэраў у Віцебску.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Беларускія кнігі ў краіне высокіх гор

**Напярэдададні Дня яднання народаў Беларусі і Расіі стала шырока вядома пра ініцыятыву Саюза пісьменнікаў Беларусі адправіць бібліятэчку ў Кабардзіна-Балкарыю. Нагодай таму стала ўвядзенне ў нацыянальным універсітэце КБР дысцыпліны «Беларуская мова».**



Ганаровы старшыня Клуба пісьменнікаў Каўказа Саліх Гуртуеў адзначыў: «Тое, што адбылося, — падзея найважнейшая за апошнія 25 гадоў. У самым пачатку распаду Савецкага Саюза, асновай нацыянальнай палітыкі якога было сяброўства і братэрства паміж народамі, Чынгіз Айтматаў пісаў у газеце “Известия”, што паміж літаратарамі і дзеячамі культуры ніякіх перашкод быць не павінна. З мэтай аб'яднання літаратараў у 2008 годзе быў створаны Клуб пісьменнікаў Каўказа. Важна, што роля літаратуры ўздымаецца на дзяржаўны ўзровень. Значэнне мовы і літаратуры ў гэтай справе цяжка пераболышыць».

Беларускія пісьменнікі надзвычай рады, што мова Купалы, Коласа, Багдановіча будзе гучаць у краіне высокіх гор. Што гэта менавіта так, пацвярджае і вось такі ліст, які прыйшоў з Каўказа: «Мы, студэнты 3 курса інстытута гісторыі, філалогіі і СМІ КБДУ імя Х. М. Бербекава, выказваем шчырую ўдзячнасць Саюзу пісьменнікаў Беларусі за дасланую мастацкую літаратуру на беларускай мове. Мы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з беларускай культурай праз вывучэнне мовы сяброўскага нам народа. Дзякуючы вашаму шчодраму падарунку зможам атрымаць асалоду ад цудоўнай беларускай мовы з першакрыніц. Мы вельмі рады, што сталі першай групай, якая атрымала магчымасць вывучаць беларускую мову ў класічным універсітэце на тэрыторыі Паўночнага Каўказа. З павагай і ўдзячнасцю, Апшаева Земфіра і ўся група студэнтаў».

Вось так мова, кніга знайшлі шчыры водгук у сэрцах сапраўдных сяброў.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

## Віншаванні

# Калектыву рэдакцыі часопіса «Вясёлка»

60 гадоў часопіс «Вясёлка» расквечвае шматколернымі фарбамі дзіўны свет дзяцінства. «Вясёлка» гэткая ж праменная, яснавокая, як і наша прыгожая краіна Беларусь.

Вялікім клопатам пра маленькага беларуса прасякнуты кожны радок выдання. Яго старонкі свецяцца радасцю і шчырасцю, павагай і любоўю да цікаўнага чытача.

Чытач у «Вясёлкі» сапраўды вельмі ўдзячны. Ён любіць падарожнічаць і марыць. Ён імкнецца да вяршынь ведаў. Ён — маленькі грамадзянін сваёй краіны, які здольны на высакародныя ўчынкі.

Хто аднойчы пазнаёміўся з «Вясёлкай», застаецца яе шчырым сябрам нават стаўшы дарослым. З часопісам ніколі не бывае сумна. Кожным нумарам ён умее здзіўляць.

На старонках часопіса рабілі першыя творчыя крокі многія пісьменнікі, якія таксама раслі, сталелі, мудрэлі з «Вясёлкай». Многія з іх набылі вядомасць, падарылі дзецям шмат цікавых і карысных кніжак. Яны па-ранейшаму прыхільныя да любімага сябра-часопіса, які нікому і ніколі не здрадзіў.

Часопіс ва ўсе часы служыў узорам дзіцячай журналістыкі, паказваў прыклад таго, як захапіць чытача, пашырыць кола надзейных прыхільнікаў.

Шчыры дзякуй усім стваральнікам часопіса. Вялікі гонар за тых, хто ўклаў часцінку душы ў скарбонку «вясёлкавых» талентаў.

Няхай на тваім небасхіле, дарагая «Вясёлка», будзе заўсёды бясхмарна!

І надалей пракладай масткі сяброўства ад сэрца да сэрца! Асвятляй шлях дабрынёй тых, хто падрастае на радасць бацькоў і Радзімы!

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Пра кнігі, гумар і фальклор

**Імпрэза, што прайшла на базе ААТ «“АМКАДОР” — кіруючая кампанія холдынгу», сталася сапраўдным святам беларускага слова. Сюды завіталі сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі, чые кнігі пабачылі свет у серыі выдавецтва «Чатыры чвэрці» «Несур'ёзна пра сур'ёзнае»: Мікола Шабовіч, Уладзімір Цанунін, Казімір Камейша, Мікола Маляўка, Уладзімір Навумовіч. А яшчэ — мастак Валянцін Губараў, карціны якога супрацоўнікі выдавецтва выкарысталі для мастацкага афармлення кніг серыі.**

Аўтары парадавалі прысутных гумарэскамі, эпіграмамі, замалёўкамі, пародыямі. Кожны радок быў шчодра аздоблены жывым народным гумарам. Гучала ў зале і беларуская музыка: разам з супрацоўнікамі выдавецтва і майстрамі слова на «АМКАДОР» прыехаў і фальклорны ансамбль Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў «Баламуты». Пад кіраўніцтвам Канстанціна Трамбіцкага студэнты паказалі не толькі высокі клас ігры на народных інструментах, але і проста зайздросны ўзровень выканальніцкага запалу і куражу.

Дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух упэўнена: работнікі вядучага машынабудаўнічага прадпрыемства краіны і дзеячы мастацтваў супадаюць у галоўным — у любові да роднай зямлі і роднай культуры. Тое, што ў творцаў ёсць такая шырокая і ўдзячная аўдыторыя, — падмурак нашага адзінства.

**Анжэла ПРАЖАН**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**26 красавіка** — *на адкрыццё выстаўкі фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага «Пісьменнік і час» з удзелам паэтаў. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 2. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**26 красавіка** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы на творчы вечар паэта Хізры Асадулаева «Калі ў сэрцы ёсць агонь». Пачатак а 18-й гадзіне.*

**27 красавіка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 на творчы вечар паэтэсы і барда Таццяны Жылінскай. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**27 красавіка** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» ў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**27 красавіка** — *у літаратурны клуб «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 БДЭУ на творчы вечар паэтэсы Таццяны Купрыянец. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**28 красавіка** — *на творчую сустрэчу юных чытачоў з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у гімназію № 14. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**28 красавіка** — *у літаратурны клуб «Творчыя сустрэчы» пры публічнай бібліятэцы № 8 імя Максіма Багдановіча на сустрэчу з маладымі паэтамі. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**28 красавіка** — *на паэтычна-музычную імпрэзу ў харэаграфічны каледж. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**29 красавіка** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**29 красавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак у 14.30.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**26 красавіка** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Адкрыццё» (кіраўнік — член СПБ Зінаіда Дудзюк) у цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Пушкіна. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**26 красавіка** — *на навукова-практычны семінар «Сучасная літаратурная адукацыя: рэгіянальны аспект» у абласную навуковую бібліятэку імя Я. Ф. Карскага. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**26 красавіка** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Слова-дром», прысвечанае Сусветнаму дню кнігі, у абласную навуковую бібліятэку імя Я. Ф. Карскага. Тэма дыскусіі — «Як жывеш, кніга?». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**28 красавіка** — *на літаратурнае свята «З родным словам, ды з беларускаю душою» з удзелам паэтаў Гродзеншчыны і Шчучыншчыны ў межах семінара да 500-годдзя г. Шчучына ў Шчучынскую раённую бібліятэку імя Цёткі. Пачатак у 10.30.*

**Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**22 красавіка** — *у літаратурнае падарожжа для дзяцей па родных мясцінах «Чароўны свет прыроды» ў Рэкцянскую сельскую бібліятэку. Пачатак у 11.30.*

**27 красавіка** — *на літаратурна-паэтычную кампазіцыю «Гартаючы летапіс вайны» ў Быхаўскую дзіцячую раённую бібліятэку. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**27 красавіка** — *на літаратурна-музычную вечарыну, прымеркаваную да 750-годдзя г. Магілёва, у Магілёўскую дзіцячую школу мастацтваў № 1. Пачатак у 17.30.*

# Моўны этыкет для лідараў

Дакладна выказваць думкі, гаварыць змястоўна, пераконваць словам важна для кожнага. Для палітыка, грамадскага дзеяча ўменне валодаць мовай як сродкам уплыву на субяседніка мае першаступеннае значэнне. Тым больш што слова грамадскага актывіста можа быць адрасавана і вялікай аўдыторыі, калі ад выступлення залежыць авалоданне новымі ідэямі вялікай колькасці людзей, разуменне імі сутнасці сказанага, адпаведнага рэагавання на тое, што хацеў данесці прамоўца.

Нядаўна своеасаблівы майстар-клас для маладзёжнага актыву грамадскага аб'яднання «Белая Русь» правёў загадчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ, доктар філалагічных навук, прафесар Віктар Іўчанкаў. Тэма яго гаворкі якраз і датычыла моўнага этыкету грамадскага лідара.

Віктар Іванавіч зрабіў своеасаблівы экскурс у гісторыю развіцця мовы. Асобна спыніўся на антычнай рыторыцы, калі ўзоры красамоўя дэманстравалі Сакрат, Платон, Арыстоцель, Плутарх. Сёння назіраецца тэндэнцыя вяртання да вытокаў антычнасці, бо слова перайшло ў разрад найважнейшага прадукту інфармацыйнага грамадства.

На думку спецыяліста, у сучасным свеце мова змяняецца так інтэнсіўна, што перамен хапіла б на некалькі стагоддзяў. Таму спрыяюць новыя інфармацыйныя тэхналогіі. За кошт чаго сёння папаўняецца моўны запас: мастацкай літаратуры або інтэрнэт-крыніц?

Віктар Іванавіч засяродзіўся на тым, што пераважная большасць моўных наватвораў нараджаецца менавіта ў асяроддзі інтэрнэту. Нярэдка ў іх не зусім зразумелае значэнне. Словы маюць тэндэнцыю да спрашчэння формы, у нечым адлюстроўваюць больш хуткаснае ды імклівае сучаснае жыццё.

Віктар Іўчанкаў даў парады, як пазбегнуць ва ўласным выступленні клішэ, штампаў, як не збіцца да фармальнасці выказванняў.

Старшыня ГА «Белая Русь» Аляксандр Радзькоў выказаў Віктару Іўчанкаву падзяку ад імя ўдзельнікаў сустрэчы. Урок моўнага этыкету пойдзе маладым лідарам на карысць.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

*Фэст*

# Аўтарскі падыход

## Гістарычныя мясціны — для адмысловых экскурсій

**Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін у Беларусі адзначаецца «Фэстам экскурсаводаў». Некаторыя экскурсіі ўжо прайшлі, але большасць запланаваная на 22 і 23 красавіка як у Мінску, так і ў розных рэгіёнах краіны, гарадах і нават аграгарадках, а таксама ў некаторых вёсках. Усё залежыць ад ахвотных іх арганізоўваць: гідамі ў гэтыя дні могуць стаць краязнаўцы і зацікаўленыя асобы, якія маюць веды па пэўнай тэме і жадаюць імі падзяліцца.**

Леташні поспех (калі колькасць экскурсій дасягнула 100 і яны карысталіся попытам) прымусіў сёлета скіраваць увагу на вядоўцаў і адмысловасць іх прапаноў. Тым больш што задачай фэсту ад пачатку было прыцягнуць увагу да тых мясцін, дзе мы жывём, да якіх прызвычаіліся. Але нават прамысловыя мікрараёны і ўскраіны вялікага горада (напрыклад, Мінска) маюць свае таямніцы. Як і сэрца нашай сталіцы, якая адзначае сёлета юбілей, пра што нагадае адна з экскурсій. Таксама адметная: яна распачне новы гарадскі праект «Малюем Мінск». Але не толькі маляваць, але прыглядацца і ўчытвацца ў тое, што напісана, можна падчас экскурсій: да фэсту сёлета далучыліся шмат якія музеі сталіцы і іншых гарадоў. Дзякуючы гэтаму ёсць магчымасць паглыбіцца ў гісторыю літаратурнага жыцця Беларусі.

**Марыя АСІПЕНКА**

# ПОЎНАЧ НА ДАЛОНІ

**У Мінску і Віцебску стартаваў кінафестываль «Паўночнае ззянне». Праграма ў чарговы раз уключае стужкі з краін Паўночнай Еўропы, але сёлета да іх дадаліся яшчэ і балтыйскія фільмы. Акрамя таго, фестываль прапануе наведаць 6 тэматычных майстар-класаў, якія абяцаюць быць карыснымі не толькі для кінематаграфістаў, але і для гледачоў.**



Кадр з фільма «Світанак».

Усе 14 стужак фестывалю можна будзе паглядзець у кінатэатры «Мір». З разнастайнасці праграмы можна выбраць кіно пра ўцёкі з Літвы, савецкіх піянераў, сямейныя драмы, першае каханне і вяртанне ў маладосць. Асабліва прыемна, што сачыць за сюжэтам фільмаў з Нарвегіі, Швецыі, Даніі, Фінляндыі, Ісландыі, Літвы, Латвіі і Эстоніі беларусы будуць на роднай беларускай мове.

У межах фестывалю таксама — 6 майстар-класаў. Арганізатары прывезлі ў Беларусь не толькі фільмы, але і іх стваральнікаў — прадзюсараў, рэжысёраў, сцэнарыстаў, адзначаных міжнароднымі ўзнагародамі. Воркшопы для прафесіяналаў кіно тут будуць спалучацца з натхняльнымі публічнымі лекцыямі пра стварэнне фільмаў. Сёлета «Паўночнае ззянне» наведаюць 4 замежныя госці. Самай паказальнай для гледача будзе лекцыя кінакрытыка часопіса «Афіша*Daily*» Антона Доліна, які распавядзе пра тое, як праца паўночнаеўрапейскіх рэжысёраў паўплывала на кінамову сусвету, і вылучыць асаблівасці нардычнага кінематографа.

Фінскі прадзюсар Каарле Ахо на ўласным досведзе пакажа, як трапіць на Берлінале, Сандэнс, кінафестываль у Таронта і шорт-ліст прэміі «Оскар», а прадзюсар з Ісландыі Антон Мані Свансан патлумачыць, як планаваць фестывальны шлях стужкі і перайсці ад вытворчасці кароткага метра да паўнавартаснага ігравога фільма. Нарвежац Ян Вардзёен тры гады таму паспрабаваў сябе ў рэжысуры і не можа пакінуць гэты занятак — на сваёй лекцыі Ян раскажа, як паспяваць кіраваць бізнесам і выпусціць 4 стужкі за 4 гады, не маючы ніякай кінаадукацыі.

Для гледачоў фестываль таксама прапануе інтэрдысцыплінарную лекцыю ад Дар'і Яфімавай, якая распавядзе пра візуальныя мастацтвы Паўночнай Еўропы і іх ролю ў фарміраванні міжнароднага брэнду Скандынавіі. Паспець на «Паўночнае ззянне» яшчэ можна: фестываль будзе доўжыцца да 25 красавіка ў Мінску і Віцебску.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ЛіМ-каляндар

**17 красавіка** — 100 гадоў з дня нараджэння Леаніда Бражніка (1917 — 1992), беларускага спевака, народнага артыста БССР.

**18 красавіка** — 130 гадоў з дня нараджэння Анатоля Дзеркача (сапр. Анатоль Зміёнак; 1887 — 1937), беларускага паэта, сатырыка, гумарыста.

**19 красавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Леаніда Прокшы (1912 — 1994), беларускага празаіка. Пісаў на беларускай, рускай і польскай мовах.

**20 красавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Альберта Някрасава (1937 — 1992), беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца, акварэліста.

**20 красавіка** — 70 гадоў з дня нараджэння Віктара Смаляка (1947 — 2012), беларускага мастака-плакатыста.

**20 красавіка** 60 гадоў адзначыла Людка Сільнова, беларуская паэтэса.

**20 красавіка** 60 гадоў споўнілася Раісе Раманчук, беларускай паэтэсе.

*Дайджэст*

• Эскіз помніка легендарнаму палкаводцу Давыду Гарадзенскаму выбралі ў Гродне. Конкурс эскізных праектаў, арганізаваны Гродзенскім гарвыканкамам, ладзіўся з мэтай пошуку найбольш выразнага вобраза палкаводца і дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, старасты і кашталяна гродзенскай крэпасці. Зыходзячы з таго, што не засталося ні партрэтаў, ні якіхнебудзь іншых апісанняў яго знешнасці, па ўмовах конкурсу помнік павінны ўвасабляць вобраз воіна той эпохі. «На конкурс было прадстаўлена 13 работ. Пераможцу выбірала камісія ў складзе 17 чалавек. Кожны эскіз абмяркоўваўся асобна», — адзначылі ў гарвыканкаме. Пераможцам стаў праект мінчука Сяргея Оганава. Пасля ўзгаднення з Гродзенскай епархіяй, дапрацоўкі эскіза і яго зацвярджэння аўтар прыступіць да вырабу помніка. Размесціцца ён на скрыжаванні вуліц Замкавай і Давыда Гарадзенскага.

• Капітальны рамонт Каложскай царквы ў Гродне запланаваны на 2017 год. На пасяджанні савета фонду прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва, што прайшло ў Міністэрстве культуры, таксама разгледзелі заяўкі на фінансаванне творчых праектаў гэтага года. Так, будзе праводзіцца рэстаўрацыя жывапісу ў Спаса-Праабражэнскай царкве Полацка, часовая кансервацыя Княжацкай вежы ў Крэве. За мінулы год была завершаная другая чарга рэстаўрацыі Свята-Пакроўскага жаночага манастыра ў Талачыне, першая чарга рэстаўрацыйнааднаўленчых работ касцёла Божага Цела ў Нясвіжы, работы ў мемарыяльным комплексе «Прарыў» ва Ушацкім раёне, у будынку мастацкага вучылішча ў Віцебску, завершаны этап рэстаўрацыі магільнага склепа князёў Паскевічаў у Гомелі. Працягваюцца работы па рэстаўрацыі Любчанскага замка, рэшткаў сядзібы палацава-паркавага ансамбля ў Смілавічах, у палацава-паркавым комплексе ў вёсцы Жылічы ды інш.

• Кніжны сайт *Bookster.by* распачынае лекцыі па літаратуры. У межах праекта ўдзельнікі цягам двух месяцаў прачытаюць ці пераасэнсуюць сем знакавых кніг. Лекцыі чытаюць універсітэцкія выкладчыкі Гражына Паўлоўская, Уладзімір Капцаў, Ганна Бутырчык, а таксама — пісьменнікі Адам Глобус і Альгерд Бахарэвіч, псіхіятр Алег Айзберг, культуролаг Максім Жбанкоў. Так у межах аднаго курса спалучыліся розныя манеры выкладання і погляды на літаратуру. Кожны лектар абірае кнігу на свой густ, таму падборка атрымалася стракатая: ад напісаных тысячагоддзе таму «Нататак ля ўзгалоўя» японкі Сэй-Сёнагон да новага рамана каталонскага аўтара Жаумэ Кабрэ «Я спавядаюся». Будуць лекцыі пра культавыя творы «Лавец у жыцце» Сэлінджэра, «Працэс» Кафкі, «Ганна Карэніна» Талстога. Побач з мастацкімі кнігамі — дакументальны бестселер неўролага Олівера Сакса «Чалавек, які прыняў жонку за капялюш». Пасля 45-хвіліннай лекцыі будуць ладзіцца абмеркаванні ў фармаце кніжнага клуба.

# Час для дзеянняў

## Ад нацыянальнай ідэнтычнасці да культурнай дыпламатыі

**15 красавіка адзначаўся Міжнародны дзень культуры. Гэтае свята — падстава пагаварыць пра тое, чаму менавіта культурная спадчына можа выратаваць свет, як гэта можна зрабіць. Усімі гэтымі пытаннямі яшчэ ў мінулым стагоддзі задаваўся вядомы мастак і гуманіст Мікалай Рэрых, па ініцыятыве якога 15 красавіка 1935 года быў падпісаны «Пакт Рэрыха» — першы міжнародны дакумент, які прадпісвае абарону культурнай спадчыны. З гэтай нагоды ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» сабраліся тыя, хто разумее, у чым рэальная сіла культуры, пра якую ішла гаворка падчас круглага стала «Культурная дыпламатыя: стратэгія XXI стагоддзя». Пытанне актуальнае для Беларусі, якая ў наш час імкнецца пашыраць кола сяброў у розных частках свету менавіта праз культуру. У нас плённае супрацоўніцтва і вялікая колькасць культурных праектаў з Кітаем, але сёлета ўмоўны Год культуры Італіі ў Беларусі. Ідзе супрацоўніцтва з Пакістанам, але з задавальненнем пазнаём Вялікабрытанію праз кнігі. Нашы творцы прадстаўляюць сябе і Беларусь у Францыі, але безліч кантактаў ідзе па лініі СНД… Адкрываем сябе іншым народам, лепей разумеем іх.**

### ЭТНІЧНАЕ З'ЯДНАННЕ

Сёння як ніколі заўважна, што ўвесь свет падзяліўся на стваральнікаў і разбуральнікаў. Галоўнае пытанне ў тым, наколькі ж больш моцнымі павінны быць тыя, хто стварае, хто лічыць духоўную культуру важнай, за тых, хто лічыць яе бескарыснай? Пранізанасць сучаснага свету канфліктамі не дае адказу, але Мікалай Рэрых шукаў гэты адказ на працягу ўсяго жыцця — ён раней за іншых ведаў, што адбудзецца з культурай і разумеў цэласнасць паняццяў «мір» і «культура». Пра тое, як разумеў культуру Рэрых, нагадаў прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі «Мір праз Культуру» (Швейцарыя) Эрых Фромгхаўзен.




Асацыяцыя «Мір праз Культуру» з'явілася напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя і амаль адразу стала агульнаеўрапейскай. Арганізацыяй распрацаваны шэраг праектаў, накіраваных на адраджэнне каштоўнасцей і правядзенне культурнага дыялогу, — пачынаючы ад майстар-класаў, працягваючы канцэртамі, гастролямі і прэстыжнымі міжнароднымі конкурсамі, адзін з якіх прайшоў на мінулых выхадных у Сейме Літвы, распавёў віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі «Мір праз Культуру» ў Еўропе Марка Вукавіч: «Мне падаецца, не трэба казаць пра тое, што такое культура, бо ўсе мы ведаем, што ўяўляе сабой гэтае паняцце. Войны, тэрарызм і нянавісць — гэта супрацьпастаўленне культуры, а сама культура — уся тая прыгажосць, якую чалавецтва можа выказаць высокімі словамі. Ёсць сілы, я нават магу назваць іх злымі, якія спрабуюць знішчыць культурныя каштоўнасці, а наша задача — змагацца з гэтым. Для нашай арганізацыі "Пакт Рэрыха" — своеасаблівая мапа, маршрут, па якім павінны ісці ўлады, каб захаваць культурную спадчыну, бо Рэрых казаў, што "вышыня культуры — гэта будучыня цывілізацыі"».

Зараз асацыяцыя працуе над праектам «Еўразійская народная асамблея». Ён шматнацыянальны, бо, на думку арганізатараў, кожная з этнічных груп мае моцны ўплыў на ўрад і менавіта гэтыя сілы змогуць з'яднаць культуры Усходу і Захаду, зберагчы ўсё каштоўнае для чалавецтва. Напрыканцы вясны ў межах праекта ў Маскве адбудзецца канферэнцыя, якая стане платформай для дыялогу паміж нацыямі — не палітычнага, не эканамічнага, а менавіта культурнага.

### У ДОБРАСУСЕДСКІХ АДНОСІНАХ

Загадчык кафедры міжкультурных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Аляксандр Марозаў адзначае, што ў наш час важнасць культурнага дыялогу павялічваецца: «На нашай кафедры на працягу 2016 — 2020 гадоў рэалізуецца навуковы праект "Культурная дыпламатыя Рэспублікі Беларусь", і мы павінны прайсці 5 важных этапаў за кожны год: напрыклад, сёлета будзем аналізаваць беларускія культурныя дасягненні, параўноўваць культуры Усходу і Захаду, спрабаваць удасканальваць культурную дыпламатыю нашай краіны».

Культурная дыпламатыя XXI стагоддзя павінна базіравацца на дасягненнях, якія ўжо былі зробленыя, але задачы пашыраюцца — з'яўляецца шмат новых пытанняў, праблем, пагроз. Менавіта культурная дыпламатыя можа дапамагчы выпрацаваць добрасуседскія адносіны з іншымі дзяржавамі. Ад тэарэтычнага пытання дыпламаты трэба пераходзіць да практычнага ўвасаблення. У Беларусі ў гэтым кірунку спрабуюць рабіць шмат, але не заўсёды атрымліваецца давесці справу да лагічнага завяршэння. У 2010 — 2015 гадах рэалізавалася праграма «Культура», дзе прадугледжвалася стварэнне чатырох культурных цэнтраў Беларусі за мяжой. Гэтая праграма так і не была рэалізаваная, але адкрыўся культурна-інфармацыйны цэнтр у РФ і працуе культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы. Яшчэ адзін прыклад: у 2015 годзе адзначалі 250-годдзе з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, быў распрацаваны праект «Ад Залесся да Парыжа», згодна з якім спадчыну вядомага грамадскага дзеяча і таленавітага чалавека беларусы павінны былі паказаць у некалькіх краінах Еўропы, але рэалізацыі не адбылося з-за недахопу сродкаў. Канечне, ёсць і добрыя прыклады: 3 гады назад беларускія Паставы і літоўскія Рокішкі рэалізавалі праект, які прэзентуе спадчыну, пакінутую Тызенгаўзамі: палацы, гарадскія збудаванні, паркавыя ансамблі. Гэта спрацавала і на турыстычную прыцягальнасць рэгіёнаў, але такі выпадак адзінкавы, хоць у Беларусі шмат цікавых і вядомых родаў і іх сядзіб, якія можна было б аднавіць.

### НОВЫ ІМІДЖ?

Культурная дыпламатыя для невялікіх краін мае асаблівае значэнне — дзякуючы ёй мы маглі б сфарміраваць пазітыўны імідж, прасоўваць нацыянальныя інтарэсы, папулярызаваць культуру. Беларусь была краінай-донарам на працягу многіх стагоддзяў — шмат нашых вядомых суйачыннікаў былі раскіданыя па свеце, і гэта можа стаць падставай для прэзентацыі краіны. Сёлета мы маем магчымасць скарыстацца юбілеем Скарыны для папулярызацыі беларускай культуры за мяжой і прыцягнуць супрацоўніцтвы з міжнароднымі арганізацыямі, адзначае намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэвуш Стружэцкі, які 5 гадоў працаваў у Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы і быў ініцыятарам адкрыцця першага беларускага культурнага цэнтра: «Першая пасада дарадцы па культуры ў амбасадзе Рэспублікі Беларусь у Польшчы з'явілася толькі ў 2005 годзе, а ў 2008 годзе адкрыўся першы беларускі культурны цэнтр. Гэта сведчыць пра тое, што культурная дыпламатыя фарміруецца ў Беларусі дагэтуль. Амерыканскі палітолаг Мілтан Камінгс казаў, што культурная дыпламатыя — гэта абмен ідэямі, інфармацыяй, культурнымі каштоўнасцямі, традыцыямі, вераваннямі і іншымі аспектамі культуры, якія могуць спрыяць паляпшэнню ўзаемаразумення. З асабістага досведу магу сказаць: калі на працягу 2005 — 2008 гадоў паміж Польшчай і Беларуссю былі зведзеныя да мінімуму палітычныя і эканамічныя адносіны, адзінай крыніцай падтрымкі ўзаемадзеяння паміж дзяржавамі якраз і была культурная дыпламатыя. Пазней гэта дапамагло аднавіць адносіны і ў астатніх сферах. Таму развіццё культурнай дыпламатыі Беларусі павінна стаць пытаннем не толькі дзяржаўнага ўзроўню, але і ўзроўню грамадскага».

Тадэвуш Іванавіч падкрэсліў, што менавіта Польшча можа стаць узорам паспяховай культурнай дыпламатыі: сёння ў свеце дзейнічаюць каля 30 польскіх інстытутаў, у міністэрствах маюцца адмысловыя дэпартаменты культурнай дыпламатыі, распрацавана праграма прасоўвання польскай культуры ў свеце, на культурныя праекты вылучаецца фінансаванне. Што да Беларусі, то ў нас ёсць шмат арганізацый, якія сёння спрабуюць спрыяць папулярызацыі беларускай культуры і захаванню нашай спадчыны. Адной з іх, Беларускім фондам міру, кіруе дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Максім Місько, які падкрэслівае: калі мы гаворым пра культуру, то павінны памятаць, што ў гэта паняцце сёння інтэгруюцца і навука, і рэлігія, таму, абмяркоўваючы культуру, неабходна распавядаць пра ўсё нашае жыццё: «Праблема міру вельмі складаная — дзеля яго мы нават уступаем у войны. Але, закранаючы пытанне культуры, я б вылучыў асноўную задачу чалавека культурнага — не пакрыўдзіць іншага, нягледзячы на ўласныя погляды і перакананні. Я ўпэўнены, што менавіта павазе да іншых мы павінны вучыць сваіх дзяцей, а не прышчапляць ім наша бачанне свету, выхаваць чалавека, які сваімі словамі, дзеяннямі і ўчынкамі не пакрыўдзіць іншага. Таму праграмы фонду міру накіраваныя на тое, каб не толькі навучыць людзей памяркоўнасці, але і талерантнасці да іншых культурных каштоўнасцей. Мяркую, што важнае месца ў захаванні культурнай спадчыны належыць і рэлігіі, але ці можна сёння казаць пра аб'яднанне веравызнанняў? Хутчэй пра яднанне».

Максім Місько адзначае, што Беларускі фонд міру — арганізацыя, якая працуе ў гэтым кірунку і нават можа пахваліцца тым, што ў яе складзе членамі праўлення з'яўляюцца ўсе кіраўнікі канфесій, якія і прапрацоўваюць праекты міжканфесійных мерапрыемстваў. Не толькі праз веравызнанні, але праз адметнасць свайго народу можна зацікавіць свет беларускай культурай. Моцныя суполкі беларусаў ёсць у розных краінах свету — у Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі, не кажучы пра нашы краіны-суседкі. Даследчыкі сцвярджаюць, што каля 3 мільёнаў беларусаў жывуць за мяжой, і для нашай дзяржавы гэта выдатная магчымасць скарыстацца патэнцыялам беларускай дыяспары для прасоўвання інтарэсаў краіны, фарміравання іміджу Беларусі за мяжой. Міністэрства замежных спраў зараз робіць пэўныя крокі ў гэтым кірунку: супрацоўнічае са згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое з'ядноўвае беларускія дыяспары. Хутка ў Мінску пройдзе з'езд беларусаў свету, і будзе распрацоўвацца канцэпт «беларускага дома», а гэта таксама важны штуршок для прасоўвання Беларусі ў межах культурнай дыпламатыі.

### ШУКАЕМ АДКАЗЫ

Аналітык Ліберальнага клуба Вадзім Мажэйка фундаментальна займаецца феноменамі культурнай палітыкі, бяспекі і дыпламатыі і згодны з тым, што трэба працаваць з дыяспарамі, але дадае, што культурная дыпламатыя — у першую чаргу прадстаўленне дзяржавы за мяжой за кошт мяккага сацыяльна-культурнага супрацоўніцтва: «Трэба звярнуць увагу на дадатковы фокус — адзін з паспяховых прыкладаў культурнай дыпламатыі — праекты замежных інстытутаў. Напрыклад, вядомыя Інстытут Гётэ, Французскі і Польскі інстытуты, зараз над такім праектам думаюць ва Украіне. Ці можна стварыць штосьці падобнае ў Беларусі? Патрэбныя дыпламатычныя каналы, каб не толькі займацца прасоўваннем нашай краіны за мяжой, але і забяспечыць абарону краіны праз культуру на міжнародным узроўні».

У Беларусі да гэтага часу вялізны патэнцыял для росту ў сферы культурнай дыпламатыі, пра што кажа і дэкан факультэта міжнародных аносін БДУ Віктар Шадурскі, які адзначыў: «У сферы культуры засталіся негатыўныя з'явы, якія з'яўляюцца вынікам адсутнасці ўнутранай і знешняй культурнай палітыкі, што адказвала б сучасным патрабаванням». Сістэмнасці культурнай палітыкі ў нас пакуль няма, але вымалёўваюцца пэўныя контуры. Вадзім Мажэйка прапаноўвае стварыць дакумент, які мог бы растлумачыць, як забяспечваць паляпшэнне сітуацыі ў культурнай дыпламатыі Беларусі (у Кодэксе аб культуры паняцце «культурная дыпламатыя» наогул адсутнічае).

У культурнай дыпламатыі Беларусі застаецца шэраг нявырашаных пытанняў, але нарадзілася прыкладна столькі ж ідэй і, магчыма, падстаў для супрацоўніцтваў. Падчас круглага стала абмеркавалі і этыку, і гісторыю, і рэлігію. Але асноўным тэзісам, які мог акрэсліць змест сустрэчы, стала тое, што мы павінны не проста шанаваць родную культуру, але і зрабіць так, каб яе шанавалі па ўсім свеце. Магчыма, у год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў нас гэта атрымаецца.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ХТО ЗДАБЫВАЕ «РАЗРЫЎ-ТРАВУ»?

## Асаблівыя птушкі ў беларускім фальклоры

**Дзяцел — агульная назва значнай колькасці распаўсюджаных у Беларусі відаў птушак. Часцей за ўсё ў традыцыйнай народнай культуры фігуруе вялікі чорны дзяцел, або жаўна, з адметным у самцоў пунсовым апярэннем на галаве — своеасаблівай «шапачкай» (Паводле: М. Антропаў. Дзяцел // Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 2011. С. 153). Гэтая чырвоная «шапачка», верагодна, матывавала міфапаэтычную сувязь жаўны з агнём, стэрэатыпны колер якога — чырвоны.**



### Прагноз надвор'я ад жаўны

Дзяцел (жаўна) звязаны не толькі з агнём, але і з іншымі першастыхіямі — вадой і паветрам. Крык жаўны, як і крык кані-кнігаўкі ды некаторых іншых птушак, у легендзе тлумачыцца тым, што жаўна правінілася «перад Богам і людзьмі» — не ўдзельнічала ў капанні рэк і іншых вадаёмаў, і за гэта пакараная: не можа піць ваду на зямлі, а толькі дажджавыя кроплі. У ваколіцах Ваўкавыска крык жаўны інтэрпрэтуецца як просьба-патрабаванне: «піць! піць!», што лічыцца прадказаннем хуткага дажджу: *«Як суша доўга трымае, а жаўна чорна, седзячы на дзераве, крычыць такім голасам, бы то "піць! піць!", то незабавам дасць бы дождж»* (Беларускія народныя прыкметы і павер'і: у 3 кн. Кніга 1. Мінск, 1996. С. 209). У іншых метэаралагічных прыкметах дзяцел вяшчуе мяцеліцу, буру, мароз і інш.: *«Калі жаўна тарахціць па дзераве, то будзе бура»*. Калі ж дзяцел дзяўбе зімой у сцяну жытла, чакаюць мяцеліцу. *«Калі жаўна тарахціць дзюбам па сухой галіне, то будзе негадзь»*. Паводле паводзінаў жаўны рабілі доўгатэрміновы прагноз надвор'я як улетку, так і ўзімку: *«Як жаўна ўлетку, седзячы на сухом дзераве, туркоча або свішча, то будзе доўгая пагода, а як зімою, то доўга мароз патрымае»* (Там жа, с. 209 — 210).

### Дзяцел-бортнік

Беларусам, як і іншым славянам, вядомыя міфалагічныя ўяўленні пра паходжанне дзятла ад пчаляра-бортніка. У Рэчыцкім Палессі зафіксавана легенда пра тое, што Бог ператварыў у дзятла пчаляра за працу ў нядзелю — выдзёўбванне сасновай борці для пчол (пчаляр імкнуўся зрабіць гэта першым, каб у панядзелак яго не апярэдзіў сусед). Апраўдваючыся, парушальнік забароны паведаміў Богу, што ён толькі акарыў сасну — «шчык ссек»; пакаранне за гэта было адэкватным, а менавіта лётаць і крычаць толькі «Шчык ссек! Шчык ссек!». Падобны варыянт легенды зафіксаваны ў Нясвіжскім раёне, але тут пчаляр рабіў у нядзелю засекі на дрэве з пчаліным роем, каб засведчыць на яго правы, за што Бог абавязаў яго з гэтага часу заўсёды, нягледзячы на святы, дзяўбці дрэвы доўгай дзюбай. Гэтыя легенды маюць пад сабой рэальны грунт: жаўна любіць старыя хваёвыя лясы, дзе ў тоўстых дрэвах нястомна выдзёўбвае дуплы для гнездавання. Новым дуплом жаўна карыстаецца ўсяго адзін год, потым рыхтуе іншае, а ранейшае займаюць іншыя птушкі, вавёркі, куніцы і лясныя пчолы, якіх некалі было вельмі многа ў нашых барах, а борцевае пчалярства практыкавалася яшчэ ў пачатку XX стагоддзя (Паводле: М. Антропаў. Дзяцел // Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 2011. С. 153).

### Жаўна шкодзіць, дзяцел спрыяе

У тэкстах няказкавай прозы ў дачыненні чалавека-пчаляра дзяцел і жаўна могуць займаць розныя пазіцыі і адпаведна набываць процілеглую ацэнку (жаўна ставіцца ў адзін рад з мядзведзем паводле функцыі шкодніцтва). У этыялагічнай легендзе дзяцел спрыяе пчаляру, у адрозненне ад жаўны, якая крадзе ягоны мёд і паказвае дарогу да калод мядзведзю, а таму «з жаўной дружбы няма». У легендзе з Мазырскага раёна «Чаму мядзведзь клышаногі, дзятлу дазволена ў садзе жыць, а жаўну гоніць пчаляр» апавядаецца, як пчаляр ставіў на дубах і соснах калоды, а за ім прасачыла птушачка ды паведаміла пра тое месца мядзведзю. Мядзведзь выдзіраў мёд, злаваў пчол, а гаспадару калод нічога не заставалася акрамя пчаліных укусаў. Пчаляр паскардзіўся на мядзведзя дзеду. Дзед папрасіў дзятла дапамагчы ім узамен на тое, што дзяцел зможа сяліцца ў садзе і ліса ніколі не будзе есці ягоных дзяцей. Тады дзяцел дачакаўся, пакуль мядзведзь залезе на дрэва з калодай, і абдзяўбаў усе сукі за ім. Калі мядзведзь хацеў уцячы ад разлаваных пчол, сучча не аказалася. Шкоднік зваліўся на зямлю і моцна пакалечыўся. *«А ў благадарнасць, што дзяцел памог таму пчаляру, дак ён ужо заўсёды… Толькі дзятлу разрашаецца ў саду, дзе яблыня… Ці ў яблыне жыць, там, дзе блізка. І ката ганяе»*. Жаўну ж пчаляр гоніць, *«бо жаўна доўгі язык мае і дарогу мядзведзю паказвае. З жаўной дружбы няма. Дак жаўна да сіх пор урадзіць пчаляру, пчол крадзе з вулля. Жаўна — эта такая пціца з доўгія языком. Так яна як языка запусьціць у вулей, то з вулля пчол выцягвае. Жаўна па-настаяшчаму выцягвае, ну»* (Традыцыйная культура беларусаў. У 6 т. Т. 6: Гомельскае Палессе і Падняпроўе. У 2 кн., кн. 2. Мінск, 2013. С. 589). У заалагічным кодзе беларускага фальклору шкодніцкая функцыя жаўны збліжае яе не толькі з мядзведзем, але і коршакам: *«Жаўну, застрэўшы, трэба біць, бо яна горш за коршака, бо коршака можна адагнаць ад курэй ля хаты, а яе не ўгледзіш, як выдзяўбе ў вуліку дзірку да павыцягае ўсе пчолы сваім доўгім на дзве пядзі языком, ліпучым, як смала»* (Беларускія народныя прыкметы і павер'і… Кн. 1. С.126).

### Сны і прадказанні

Дзяцел судачыняецца ***з тагасветам, смерцю.*** Лічаць, што, калі дзяцел (жаўна) дзяўбе ўвесну сцены жылых будынкаў, трэба чакаць смерці аднаго з сямейнікаў. Калі дзяцел пачне дзяўбці сцяну дома, дзе ёсць хворы чалавек, — той не паправіцца ад сваёй хваробы: дзяцел ужо «прадзёб» яму магілу (Беларускія народныя прыкметы і павер'і… Кн. 2. С. 236).

Далучанасць дзятла да іншага свету, усёведанне ўскосна прадстаўлены ў шырока распаўсюджаным у розных славянскіх традыцыях уяўленні пра сувязь гэтай птушкі з чарадзейным зеллем, так званай «разрыў-травой», пры дапамозе якой можна адмыкаць любыя замкі і запоры без ключоў. Дарэчы, падобнае ўяўленне вядомае і шэрагу неславянскіх еўрапейскіх народаў. Паводле беларускага веравання (адзінкавая фіксацыя, зробленая ў сярэдзіне XIX стагоддзя П. Шпілеўскім), каб здабыць гэтае зелле, дастаткова абгарадзіць гняздо дзятла з яйкамі асінавымі пруткамі, і ён на другі дзень прынясе траву, якая мае сілы знішчаць усе агароджы (у іншых беларускіх лакальных варыянтах адпаведныя веды маюць такія птушкі, як сарока, сава ці сойка, а таксама вожык або чарапаха (Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік… С. 154). Вяшчунская функцыя дзятла ўскосна прадстаўлена ў народных тлумачэннях сноў: бачыць яго ў сне (асабліва калі дзяўбе) — значыць атрымаць нечаканыя весткі ці зажурыцца, бо «людзі наклююцца»; калі ўбачыць цяжарная жанчына — народзіць сына (Там жа).

### «Сямейная» птушка

У казках дзяцел можа выяўляцца як працавітая, «сямейная» птушка, якая з-за сваёй даверлівасці становіцца ахвярай хітрэйшых за яе звяроў (лісы). У казцы «Звяры ў яме» ліса з дапамогай даверлівага дзятла выбіраецца з ямы, паабяцаўшы, што не будзе есці яго птушанят. Разам з тым дзятлу прыпісваецца такая рыса, як помслівасць. У запісанай Адамам Багдановічам у Халопенічах Барысаўскага павету казцы «Помста дзятла» дзяцел паклікаў да сябе на радзіны ўсіх звяроў, акрамя лісы; ліса помсціць, падманам забраўшы і з'еўшы яго птушанят. Тады дзяцел зрывае злосць не на лісе, а на мужыку і яго сям'і (Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік… С. 154).

Толькі ў беларускім казачным эпасе вядомы сюжэт «Сава і дзяцел» з выразным «люстраным» паралелізмам суб'екта, часу і дзеяння: сава абуджаецца тым, што дзяцел з раніцы стукае і не дае ёй спаць, а дзяцел, у сваю чаргу, тым, што сава ноччу перашкаджае яму адпачываць сваім крыкам (Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік… С. 154). Паводле гэтай казкі, сябравалі некалі сава з дзятлам. Але вось аднаго разу не паспела яшчэ як след развіднець, а дзяцел ужо ўхапіўся за работу. Ён так забарабаніў па старой хвоі, аж рэха пайшло па ўсім лесе. У гэты час яго суседка сава толькі клалася спаць. Раззлавалася сава ды кажа дзятлу: «Ці маеш ты розум, не дасі мне спакойна паспаць». Здзівіўся дзяцел, як гэта днём ды спаць. Не паслухаў ён саву, а зноў узяўся за сваю работу. Мінуў дзень, настала ноч. Усе дзятлавы сваякі моцна заснулі. Заснуў і сам дзяцел. Але раптам ён пачуў крык савы. Узлаваўся дзяцел ды кажа: «Чаго ты мяне пужаеш, ідзі спаць!». Але сава не паслухала дзятла, як дзяцел не паслухаў саву. З таго часу і не ладзяць сава і дзяцел паміж сабой. І так у іх пайшло дзень за днём, ноч за ноччу: ні дзяцел, ні сава з таго часу не могуць спаць спакойна (Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі / рэд. В.К. Бандарчык. Мінск, 1971. С. 259).

У паэтычных жанрах дзяцел можа складаць пару з жаўной паводле апазіцыі «мужчынскае / жаночае», прыкладам:

*Як паставіў верабейка*
*На сметнічку хату*
*Ды сазваў на наваселле*
*Госцейкаў багата.*
*Піва, квасу наварыў,*
*Квашанінкі настудзіў,*
*Насмажыў кілбасаў*
*І ўсякага мяса.*
*У залачонай карэце*
*Дзяцел пад'язджае,*
*А за дзятлам на валах*
*Жоўна паспяшае.*
*А зязюля з шуляком,*
*Перапёліца з круком*
*Лугам, даліною*
*Шпарацъ пехатою…*

(Дзіцячы фальклор / склад. Г. А. Барташэвіч. Мінск, 1972. С. 253—254).

Мужчынская сімволіка дзятла выразна выяўлена і ва ўзгаданым вышэй тлумачэнні сну: *«Калі бярэменнай прысніцца дзяцел, сына мецьме»* (Паводле Беларускія народныя прыкметы і павер'і…), у загадцы пра дзятла: *«Ехаў тота, прывязаў каня да плота, не так да дзяўчат, як да старых баб»* (Загадкі / склад. М. Я. Грынблат, А. І. Гурскі, 2004. С. 141). У гэтай і іншых загадках увага акцэнтуецца на «працы» дзятла — стук, выдзёўбванне доўгай моцнай дзюбай казурак са старых дрэў, што робіць апошнія здаравейшымі. Даўжыня як адметнасць дзюбы дзятла абыгрываецца ў прыказках і прымаўках, параўнаннях і выслоўях, напрыклад: *«Хто б дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос!»; «Хваліўся дзяцел, што клюнка (дзюба) доўгая»; «Нос як у дзятла дзюба»*. У малых фальклорных жанрах адлюстраваліся і іншыя асаблівасці марфалогіі і паводзін гэтай птушкі: *«Язык доўгі як у жаўны»; «Жаўна языкатая!»* (абзыванне, ганьбаванне; пра колкую жанчыну з «куслівым» языком); *«Сядзіць, як жаўна ў дупле»; «Ці скора ты нажарэшся, жаўна?»* (жаўна тут — абжорлівы чалавек) (Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік... С. 153).

***

Вобраз дзятла, такім чынам, звязаны з матывамі граху і пакарання (не выконваў прадпісанняў і забаронаў), «блаславёнасці» (дапамог пчаляру па просьбе дзеда) і метамарфозы (паходжанне ад чалавека), далучанасці да розных сфер светабудовы і ўсёведання, прадказання (параўнайце з уяўленнямі рымскіх аўгураў, якія лічылі, што дзяцел (лац. *picus*) як свяшчэнная птушка бога Марса надзвычай прыдатны для варажбы). Вызначаецца суаднесенасць дзятла са смерцю, магіяй, тагасветам, цудоўнымі прадметамі, першастыхіямі агню, паветра і вады (нябесный), метэаралагічнымі з'явамі, золатам (едзе ў залатой карэце), з мужчынскім пачаткам (жаўна адпаведна асацыюецца з жаночым). У характарыстыцы дзятла вылучаюцца чырвоная «шапачка»; доўгія язык і дзюба — касцяная саха, якой ён апрацоўвае драўлянае поле; актыўны дзённы лад жыцця; бацькоўская клапатлівасць; прывязанасць да сям'і (дупла), «ненажэрнасць», помслівасць, даверлівасць.

**Іна ШВЕД,**
**доктар філалагічных навук**

# ЧАРЫ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ,

## або КАМУ ГЭТА ПАТРЭБНА...

**Размова пойдзе пра кнігу Ганны Навасельцавай «І чарам сніцца чалавек…», у прадмове да якой Анатоль Казлоў піша: «Адметная з'ява ў айчынным літаратуры, яна зацікавіць не толькі дарослых чытачоў, але і моладзь, вучняў старэйшых класаў. Стане добрым дарадчыкам у пазнанні, спасціжэнні і асэнсаванні бязмежнага багацця беларускага фальклору». І прычын не давяраць словам паважанага пісьменніка няма — прынамсі, пакуль чытаеш прадмову...**

Кніга, якая, хутчэй за ўсё, выдавалася як пацвярджэнне статусу «пісьменнік», можа разлічваць збольшага на каляўтарскую аўдыторыю: сябры, знаёмыя, калегі. І гэта не праблема Ганны Навасельцавай, а сітуацыя, у якой аказваюцца амаль усе беларускія пісьменнікі-пачаткоўцы або тыя, хто нарэшце вырашыў выдаць сваю першую кнігу. Прынамсі «І чарам сніцца чалавек…» складаецца з ужо друкаванага ў розных літаратурных часопісах ды газетах і новенькага. Хто раней пазнаёміўся з творамі аўтара і жадае пачытаць яшчэ, мае магчымасць набыць кнігу — збор міфалагічных апавяданняў з аўтарскім размеркаваннем па паджанрах: легендавае, міфалагічнае, міфалагічна-легендавае, казачнае. Таксама ёсць апавяданне-ўспамін і міфалагічны трыпціх.

Дык вось. Як падаецца мне, асноўная праблема кнігі Ганны Навасельцавай — аўдыторыя. Калі аўтар насамрэч хацела проста патрымаць у руках адбітак сваёй творчай працы, каб усё напісанае было пад агульнай вокладкай, — ніякіх пытанняў не паўстае. Калі ж усур'ёз спрабаваць разабрацца, каму патрэбная кніга «І чарам сніцца чалавек…», трэба вяртацца да прамовы Анатоля Казлова.

«Дарослы чытач» — паняцце вельмі шырокае. Мяркую, у сітуацыі з гэтай кнігай можа спрацаваць гісторыя кшталту «калі ёсць адзін чалавек, якому падабаецца, абавязкова знойдзецца і другі». Не суперкамерцыйная рэч, канешне, але ж спрацоўвае. І тут можна паспадзявацца на тых, хто нібыта нічога не ведае пра беларускую міфалогію, — пазнаёмцеся, падумайце, асэнсуйце. Але гэта вельмі вузкае кола «дарослых чытачоў». Можна, безумоўна, падумаць пра тых, хто спецыялізуецца на міфалогіі, але ці не будзе гэта падобна да экранізацыі гістарычных падзей, пасля прагляду якой не знойдзеш ніводнага задаволенага гісторыка?.. Таксама трэба мець на ўвазе і такі варыянт развіцця падзей, калі наш абстрактны «гісторык» папросту не пойдзе глядзець тую экранізацыю. А тым, хто не шукае недарэчнасцяў і ляпаў, фільм, быць можа, падасца найлепшым з прагледзеных за апошні год. Безумоўна, пры ўмове, што ён будзе добра зняты, з дынамічным сюжэтам, цікавымі гісторыямі персанажаў, блізкімі да гледачоў маналогамі і дыялогамі. Ці ёсць усё тое ў кнізе «І чарам сніцца чалавек…»?

Аўтарская паджанравасць грунтуецца роўна на тым, што будзе асновай у пэўным апавяданні: калі гэта легендавае, аснова — легенда, калі міфалагічнае — міф, калі міфалагічна-легендавае — і тое, і другое. Па такім прынцыпе зразумела, на чым будзе заснаванае апавяданне-ўспамін і казачнае? Так.

Амаль што ў дзвюх трэціх усіх апавяданняў згадваюцца тры браты, і хоць яны не асілкі і часцей за ўсё маюць дрэнныя характарыстыкі, увагу на сабе засяроджваюць добра. Магчыма, не трэба чытаць некалькі тэкстаў з кнігі адразу, лімітаваць па адным апавяданні на дзень, каб не было адчування дэжавю? Але нават пры гэтай умове дынамічнага чытання не атрымаецца — пабудова сюжэтаў і стылістыка тэкстаў не дазваляюць. Праўда, гэта не пра «Сапраўдных асілкаў» і «Лесавіка, вадзяніка, палявіка». Яны толькі для цярплівых: апавяданні на апошніх старонках.

Вернемся да вызначэння аўдыторыі. Моладзь. Хто гэта? Калі вам крыху за трыццаць, у Беларусі вы таксама аднosіцеся да катэгорыі «моладзь». Ці ўжо «дарослы чалавек»? Калі адказ станоўчы, можна яшчэ раз перачыць тое, што напісана вышэй. Калі казаць пра аўдыторыю да трыццаці год, пытанне становіцца больш складаным. Будзе ўлічвацца не толькі прафесійная спецыялізацыя, але і размежаванні па інтарэсах, якія пасля або перакваліфікуюцца ў прафесійныя, або стануць хобі. Кніга Ганны Навасельцавай можа ўспрымацца як мастацкая літаратура, заснаваная на беларускай міфалогіі. Гэтаксама яна можа стаць грунтам для студэнцкай работы, прысвечанай сувязям міфалогіі і літаратуры: спосабы, мастацкая вартасць, стварэнне новых вобразаў ды інш. Але ці не будзе гэта выглядаць штучна?..

Знойдзецца поле дзейнасці і для людзей, якія любяць цытаваць. Вось некалькі прыкладаў: «любое пакаранне мае межы, любая віна мае выкупленне», «дзіва не можа




таіцца вечна», «не бывае скрадзенага шчасця». Будзе што пачытаць і аматарам доўгіх маналагічных расповедаў-разважанняў ад першай асобы: «Я (бурлівая крыніца. — **Аўт.**) бягу ў далёкі нязведаны свет. Хачу збегчы адсюль, збегчы ад пакут, пазбыцца гора… Мінаю квяцістыя берагі, поўныя радасці, поўныя пацехі. Гэта няпраўда, што я некалі там была. Смяшлівая, бясклапотная. Ці даўно? Не ўспомню. Адбіваюцца ў плыткай вадзе лёгкія аблокі. Узіраюцца ў празрыстую плынь. І толькі я адна ведаю, толькі я адна бачу, што хаваюцца за аблачынкамі і прагныя і страшныя…»

Калі прытрымлівацца чытацкай паслядоўнасці, прапанавай Анатолем Казловым, наступныя — вучні старэйшых класаў. Іх зацікаўленасць кнігай «І чарам сніцца чалавек…» можа выяўляцца як інтарэс да літаратуры, абавязковай для прачытання або ў якасці дадатковай. Але ж усім зразумела, наколькі гэта рэальна. З іншага боку, у кнізе шмат элементаў чарадзейства, што можа зацікаваць школьнікаў сярэдніх і малодшых класаў у залежнасці ад інтарэсаў.

Персанажы — Ваўкалак-людажэр, цмок, Варкотка, пушчавік і іншыя — маюць надзвычайныя ўласцівасці. «Чарадзейная котка ўмее размаўляць, угадваць думкі-жаданні. Насылае сваім вуркатаннем прыемныя сны. Не ловіць мышэй, крадзе смятану». «Ён (Ваўкалак-людажэр. — **Аўт.**) мог лёгка прыняць любое аблічча, каб падмануць таго, каго нагледзеў сабе ахвярай». Сустракаюцца магічныя артэфакты: чарадзейны рог спраўдзіць любое чалавечае летуценне (з апавядання «Паўночнік»), а той, хто ўтрымае ў руках маладзільны яблычак, «будзе заўсёды шчаслівым». Аўтар апісвае розныя чарадзействы: «Успыхвае ярка папаратнікавы каменьчык у руках малодшай князёўны. Прасвятляе балотнае цемрыва, праганяе хіжы цень. Велічна паўстае перад намі вялікая гара, якой тут адвеку не было ніколі…» Ёсць у тэкстах і «прывітанне з прагназаванай будучыні» кшталту: «Здарыцца вялікая бяда. Абудзяцца варожыя чарадзействы чужой зямлі. І тады прыляціць з чужыны цуда-юда, прынясе з сабою смерць і няволю… цяжка будзе з ім, моцным, крылатым, змагацца. І тады той, хто зможа тое цуда-юда перамагчы, будзе абраны князем. І атрымае пашану, славу, памяць».

Асаблівай ўвагі заслугоўвае казачнае «Сапраўдныя асілкі!» — апавяданне, якому зусім не абавязкова ўваходзіць у склад кнігі. З папраўкамі на ўзрост малодшых і сярэдніх школьнікаў твор можа стаць самастойнай кнігай. Пытанне ў добрых ілюстрацыях і якасным выданні. Шанец паказаць беларуса не нявольнікам, а асілкам у вышыванцы губляць нельга. Тым больш што ён будзе з чарадзейным коцікам... А, як сведчыць мультыплікацыя, хоць бы «Шрэк» ці «Кот у ботах», сяброўства паміж чалавекам і катом можа стаць прыбытковым нават для аўтараў.

**Юля ВАЎЧОК**

*Палеміка*

# Што гатуе беларуская малекулярная кухня ў інтэрнэце?

У студзеньскім нумары «Полымя» (2017, № 1) І. Шаўлякова-Барзенка закранула надзвычай актуальнае пытанне функцыянавання сучаснай беларускай літаратуры ў інфармацыйным грамадстве. Згаданая праблема і форма яе падачы выклікае непазбежную асацыяцыю са стравай папулярнай сёння «малекулярнай кухні», калі неабазнанаму дэгустатару прапануецца няхай і густоўна аформлены, аднак вонкава лаканічны прадукт «кулінарнай фізікі», што пры далейшым смакавым азнаямленні аказваецца пазнавальным шэдэўрам кухарскага майстэрства.

Так, невялікі па памерах артыкул названай аўтаркі аказаўся надзвычай паліморфным даследаваннем, цэнтральнае месца ў якім займае канстатацыя немагчымасці ігнаравання сучаснай беларускай літаратурай (як сістэмай пераважна класічнага тыпу) найноўшых тэндэнцый постындустрыяльнай рэчаіснасці. Пры гэтым даволі пазнавальным паўстае стыль І. Шаўляковай-Барзенка з яго арыентацыяй на самапалемічнасць як аснову навуковай аб'ектыўнасці. Магчыма, таму выкладзеныя ў рабоце тэзісы выступілі безапеляцыйнай асновай для яшчэ аднаго артыкула «Чытанне павінна быць модным, а пісьменнік — пазнавальным» («ЛіМ», № 9, 3 сакавіка 2017) А. Мельнікавай, дзе, па сутнасці, падаецца разгорнутая ілюстрацыя аксіялагічнага, жанрава-стылявога патэнцыялу айчыннага прыгожага пісьменства ва ўмовах медыйнасці.

У сваю чаргу, хацелася б працягнуць абмеркаванне тэмы і дадаць у скарбонку пакінутых адкрытымі пытанняў праблему нацыянальнай ідэнтыфікацыі віртуальнага вербальнага мастацтва. Насамрэч, што ёсць уласна беларуская інтэрнэт-літаратура? Якія крытэрыі павінны быць выкарыстаны пры яе характарыстыцы? Які паказчык варта лічыць вызначальным: фармальны (мову) ці змястоўны (факт распрацоўкі шматлікіх індывідуальных інтэрпрэтацый нацыянальных вобразаў, сімвалаў і г.д.)? І, што самае галоўнае, ці патрэбна правядзенне дадзенай «этнадыягностыкі» пры ўліку непазбежнага імкнення інтэрнэтпрасторы да глабалізацыі, пераходу на адрозна новы, часцей невербальны, тып камунікацыі (праз колеры, гукі, набор неалфавітных знакаў, etc.)?

Акрэсленыя вышэй пытанні даволі складаныя і вартыя стаць цэнтральнымі на старонках не аднаго друкаванага артыкула і, тым больш (а нават лепш), віртуальнага форуму (у першую чаргу, па прычыне сваёй мабільнасці). Варта адзначыць толькі той факт, што беларускамоўны пласт інтэрнэт-літаратуры ў найвышэйшай ступені адпавядае галоўным патрабаванням так званай «мастацкай» сецыратуры. Пэўная элітарнасць беларускамоўнай віртуальнай літаратурнай прадукцыі, а таксама абмежаваная колькасць яе стваральнікаў (з нярэдка выразна акрэсленай філалагічнай скіраванасцю інтарэсаў) прыводзіць, па сутнасці, да яе інтэнсіфікацыі, арыентацыі на якасць, а не на колькасць тэкстаў.

Аднак дадзеная акалічнасць цалкам не дае падставы атаясамліваць уласна беларускую сецыратуру з выключна беларускамоўнай інтэрнэт-літаратурай. Бо пры такім раскладзе па-за межамі віртуальнай літаратурнай практыкі застаецца шэраг неблагіх рускамоўных аўтараў, якія, акрамя шырокай прапаганды сваёй творчасці ў віртуальнай прасторы (а сецыратура — гэта, у першую чаргу, выдатная школа піяр-тэхналогій), паспелі сцвердзіць сябе і ў традыцыйным «папяровым» друку.

Тым не менш руская мова, роўна як і англійская, па прычыне масавасці сваіх адэптаў выкіроўвае сецыратуру на экстэнсіўны шлях развіцця, што непазбежна прыводзіць да пагаршэння якасці мастацкіх тэкстаў. У дадзеным плане пэўная ізаляцыя беларускамоўнага віртуальнага твора выглядае як своеасаблівая панацэя ад дэградацыі. З іншага боку, такім чынам беларуская віртуальная прастора адмаўляе сабе ад магчымасці падзення, без якога, вядома, ніякі ўзлёт не будзе дастаткова эфектным.

**Марына АММОН,**
**кандыдат філалагічных навук, асістэнт кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны**

# Нетутэйшая паэзія «тутэйшай»



**Адна з самых адметных беларускіх паэтэс, у творчай скарбонцы якой — шматжанравае суквецце вершаў як прыклад адлюстравання авангардных кірункаў у беларускай літаратуры канца ХХ ст. Напярэдадні дня нараджэння Людкі Сільновай згадалася даўняя, яшчэ 2012 года, гутарка з паэтэсай (а таксама — перакладчыцай, лаўрэаткай прэмій «Гліняны Вялес» і «Залаты апостраф»). Звярнуўшыся да яе сёлета, удалося «актуалізаваць» і нават атрымаць дапаўненне да той колішняй размовы, якую мы й прапануем чытачам «ЛіМа».**

**— Вашыя кнігі кожны раз здзіўляюць: «Рысасловы» — вершы-малюнкі, а зборнік «Агністыя дзьмухаўцы» — візуальная проза. Як іх успрымаць чытачу?**

— Зборнік «Агністыя дзьмухаўцы» — гэта не «візуальная проза», як напісана ў анатацыі, а самая што ні ёсць паэзія, паэзія кахання, выказаная сюжэтнай нізкай аўтарскіх малюнкаў з сімвалічнымі подпісамі: "Тваё пасланне", «Інтымнае», «Дзеці-кветкі», «Здрада», «Наш праект» ды іншыя. Праўда, у выдавецтве ў сярэдзіне кніжкі крыху пераблыталі паслядоўнасць малюнкаў аб прыгодах гэтых двух «бліскучых — праз перажыванне кахання — істот». Малады Зміцер Вішнёў напісаў у штотыднёвіку «Культура» невялікую рэцэнзію на «Агністых дзьмухаўцоў» і, мяркую, неўзабаве сам пераняў ідэю гэтых пухнатых персанажаў. На маё здзіўленне, ён ператварыў іх з цудоўных у жахлівых (для патрэб сваёй эстэтыкі) і растыражаваў апошнія на ўласных жывапісных палотнах, паштоўках, календарах і г. д. А паэт Алесь Туровіч, натхніўшыся маімі персанажамі — «агністымі дзьмухаўцамі», — назваў гэта ўсё «экалагічнай эзатэрыкай» і напісаў на кожны мой малюнак верш-экспромт, які пакінуў паміж старонкамі (захоўваюцца ў маім архіве). Добра было б зрабіць другое, дапоўненае выданне...

**— Кнігі «Галінка ў інеі», «Вільготныя іерогліфы», «Уздоўж індзейскай ракі», «Валянцінка», «Дудачка», «Вогненная сябрына» я бачыла толькі як рукапісы ў каталогу НББ. Яны не друкаваліся?**

— Так, я рабіла ў 1990-я гады «саматробныя кнігі» або арт-бук у адным асобніку. Частку калекцыі я сапраўды падарыла Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (як гістарычныя артэфакты — пасля персанальнай выстаўкі «Рыфмы колеру» ў 2001-м); некаторыя хэнд-мэйд кнігі я падарыла калегам па пяры, бібліятэкарам, роднай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча ў Маладзечне. Помню, былі такія: «Празрысты кот» (на цюлевай тканіне), «Запісы на кулінарнай фальзе» (на кулінарным алюмініі), «Бацькава мова» (на паперы) ды іншыя. Многія з тых вершаў нідзе афіцыйна не друкаваліся, а некаторыя патрапілі (як вузельчыкі на памяць, «ключы», зачэпкі для літаратурных даследчыкаў) у пазнейшыя мае падборкі ў перыёдыцы і ў аўтарскія кнігі пачатку 2000-х гг.: «Зеленавокія вої і іх прыгажуні» і асабліва — «Зачараваная краіна».

Сама я прыхільніца старой паэтычнай школы, сілаба-танічнага верша. Так, як ні дзіўна, таго самага «парадна-вайсковага» рыфмаванага верша і «святочна-народнага», крыху хаатычнага верлібра (які стаў ужо таксама традыцыйным, амаль народным, нават сучасным гарадскім фальклорам, у нечым хіп-хопам, вершам без дзяржаўных межаў). Люблю і ўсходнюю паэзію малых формаў у добрых перакладах ці таленавітых перайманнях.

**— Якія ў вас былі ўзаемадачыненні з аб'яднаннямі «Тутэйшыя», «Таварыства вольных літаратараў», «Бум-бам-літ»?**

— Я лічыла сябе паўнавартасным сябрам Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», амаль ад першых пасяджэнняў у Доме літаратара, куды з невераголднай цяжкасцю вырывалася з дому, ад сям'і з малымі дзецьмі, пакінуўшы іх на бацьку, свякроў, бабулю-суседку; мяняла свае змены ў раскладзе вячэрніх дзяжурстваў па бібліятэцы, упрошваючы часам вельмі незадаволеных калег... Хадзіла амаль на ўсе пасяджэнні, вучылася, канспектавала, напісала праграмны верш «Тутэйшая», брала ўдзел у калектыўных падборках вершаў, у сумесным канцэрце на сцэне Дома літаратара. Пасля тых чароўных «Крыніц» гэта была сапраўдная палемічная пляцоўка: супрацьстаянне поглядаў на літаратуру А. Глобуса і А. Сыса, напружанае тэатральнае дзейства, шматлікія «госці ў студыі» са знаных асоб беларускай літаратуры і гісторыі, некампліментарнае абмеркаванне новых твораў сяброў аб'яднання. Штораз шмат навічкоў, маладых прыгожых твараў, бярэма надзей на ашаламляльны поспех — вось-вось, ну, праз 3-4 гады!..

Але, нягледзячы на маю адданасць калектыву, ён не палічыў мяне сваёй, «тутэйшай». Рукапіс кнігі «Дзіця» разгрмілі, нават назву (з яго пасля паўстаў зборнік «Ластаўка ляціць...»). У аб'яднанне афіцыйна мяне прынялі толькі непаўнадзейным членам — «без права голасу». Гэта была абраза або нейкае непаразуменне... У дадатак, не ўзялі мае вершы (я падавала розныя, два разы!) у першы і, як высвілася, апошні альманах «Тутэйшыя», у які ўвайшлі творы тых, каго я мо адзін раз і бачыла на пасяджэннях і імпрэзах або не бачыла ніколі: дзясяткі «нетутэйшых»! Магчыма, тут гуляла ў сваю гульню пані Камерцыя... Ці яны цьмяна бачылі ўва мне нешта русафільскае (я філолаг-русіст), касмапалітычнае, будучую авангардную, мадэрнісцкую паэтку, даследчыцу-эксперыментатарку? Ці проста сталую, сямейную жанчыну з дзецьмі-заложнікамі (па Бэкану), якой я і была насамрэч? Я была сапраўднай «тутэйшай» — з гэтых мінскіх земляў, дзе стагоддзямі жылі мае продкі. Нават у дзясятую гадавіну «Тутэйшых» я, па запрашэнні спадароў Шніпоў, удзельнічала ў «юбілейным чаяванні» ў іхняй кватэры і літаратурнай размове пра львоў і авечак часоў перабудовы, разам з былымі сябрамі таварыства. Зла на злых дзяцей я не трымала...

Пасля распаду «Тутэйшых» я ўдзельнічала ў мерапрыемствах і публікацыях Таварыства вольных літаратараў, а пазней Бум-бам-літа. Мела запрашэнні ад арганізатараў уступіць у гэтыя літаратурныя суполкі, але далікатна адмовіла на самым пачатку, пагадзіўшыся толькі на вольнае супрацоўніцтва з імі. Мне было цікавае, як і цяпер, эксперыментатарства ў літаратуры! І хацелася друкавацца, выступаць, абмяркоўваць ідэі на творчых канферэнцыях, мець хоць якую партыю «ў літаратурным хоры», хоць другое сапрана, хоць альт! Урэшце, быць сведкай і ўдзельніцай тварэння новых імёнаў, новай літаратуры на постсавецкай прасторы...

**— Ці можаце вы аднесці сваю творчасць да кірунку постмадэрнізму?**

— Я аднoшу сваю творчасць не да постмадэрнісцкага кірунку, а да авангардысцкага, эксперыментальнага, нават у нечым... фальклорнага. Тут галоўнае — сам матэрыял мовы, гукавой афарбоўкі і стаўленне аўтара да людзей, рэчаў, свету навокал. Як філолагу мне блізкая літаратура Пушкіна, Лермантава, Маякоўскага, Цвятаевай, Хлебнікава (асабліва Хлебнікава!), Багдановіча, Разанава, Лема... Многія з іх таксама эксперыментавалі і малявалі: вось дзіўнае супадзенне са схільнасцямі Людкі Сільновай, якую я як філолаг нібыта прыдумала — так часам мне здаецца. Яна гуляла ў розныя фармалістычныя і рэалістычныя кірункі літаратуры: мадэрнізм, сімвалізм, імажынізм, акмеізм, сюррэалізм, дадаізм, фальклорна-абрадавыя практыкі, постмадэрнізм і інш., асвойваючы мову і яе магчымасці. І неяк прызналася чытачам «Маладосці»: "Да нанатэхналогій хачу аднесці слова».

**— Чаму вы сябе называеце менавіта Людкай (не Людмілай)? Звычайна такую форму імя выкарыстоўваюць пры неафіцыйных стасунках, а часам нават з адценнем пагарды...**

— За 35 гадоў я так прывыкла да яе, што нічога такога не адчуваю. Па-першае, усе літаратары ў 1980-я гады і нашмат раней часта бралі як састаўную частку свайго літаратурнага імя імя «маладзевае», нават калі падлеткам яго так, можа, і не звалі: Янка (Лучына, Купала, Маўр), Алесь (Дудар, Адамовіч, Разанаў), Пятрусь (Броўка), Юрка (Голуб) і г.д. І жаночы варыянт быў добра вядомы: Зоська (Верас). Я проста працягнула гэту традыцыю. Па-другое, у пачатку 1980-х па радыё часта гучала песня «Людка» на словы Янкі Купалы ў выкананні «Песняроў». Па-трэцяе, так часта звалі мяне мае родныя вясковыя бабулі. Па-чацвёртае, у мяне ў тых «тутэйшых» 1980-х напісаўся мініяцюрны вершык-тлумачэнне: «Людка — адзінка вялікага люду...». А, па-пятае, зусім нядаўна, падпісваючы сваю кніжку «Крышталёвы сад» роднаму ўніверсітэту, я раскрыла ў дужках сваё дзявочае прозвішча, пад якім была тут студэнткаю, — і зразумела, што мілае мне «ка» — гэта пачатак майго дзявочага прозвішча. Атрымліваецца, маё цяперашняе літаратурнае імя — гэта скарочанае поўнае ЛЮ(дміла) Д(анілаўна) КА(пуцкая) СІЛЬНОВА. Вось такая «формула жыцця» зашыфравалася ў ім...

**— Зборнік паэзіі «Горад Мілаград» (2016) вы прысвяцілі «сучаснаму, найперш гарадскому, чытачу з добрай адукацыяй і жаданнем прыстасавацца да хуткаплыннага жыцця ў мега-гарадах будучыні». Ці не баіцеся, што такім чытацкім прызначэннем значна абмяжоўваеце адрасата сваёй паэзіі?**

— Не, не баюся. Гараджан сёння ў Беларусі больш, чым сельскіх жыхароў. Ды і ў быце апошніх ужо шмат элементаў гарадскога ладу жыцця. Добрай адукацыяй зараз нікога не здзівіш... Што тычыцца ўзросту, гэта паняцце ўмоўнае.

**— Што маеце на ўвазе пад «тэхнікай дэтэктыўнага пісьма»?**

— У анатацыі — алегорыю, іншаказанне, шыфраванае сімвалічнымі вобразамі «іншапісання». Але я дамагалася, каб верш успрымаўся і проста, на першым павярхоўным узроўні: як паштовы пакунак, абклеены заморскімі маркамі, як прыгожая падарункавая скрыначка з банцікам назвы зверху... У канкрэтным вершы «Тэхніка дэтэктыўнага пісьма» маецца на ўвазе непадуладная мне тэхніка напісання дэтэктыва. Відаць, я проста паэтка, пішу нядоўгія тэксты-выказванні, тэксты-загадкі, тэксты-эксперыменты і ўсё.

**— Што ў вашым жыцці значыць паэзія?**

— Паэзія, як казалі ў старажытнасці, — гэта рабленне правільнага і прыгожага. І я з гэтым згодная. Але свет правільнага і прыгожага, на жаль, усё меншае... Вось нават клімат на планеце закахаўся ў драму, а ў нашых беларускіх выдавецтвах разлюбілі браць у друк вершы сучасных паэтаў: не купляюць! Але я пішу не для продажу, а каб сказаць свае слова па паэтычных правілах, якім была навучана з дзяцінства, па якіх практыкавалася існаваць у маладосці, сталасці... Правілах, якія да гэтай пары — люблю!

**— Хто вы: паэт ці паэтэса?**

— Я — паэт (як і філолаг па дыпломе, бібліёграф па запісе ў працоўнай кніжцы). Гэта амаль не прамаўляецца мной, а трымаецца пры сабе. Бо вельмі сэнсава нагружанае слова, шматзначнае, звязанае з метафізікай... Але як «тутэйшая», народжаная тут, я — «беларуская паэтка Людка Сільнова». Гэта адзінае, бышцам неба і зямля, дзень і ноч: паэт і паэтка. Ну, а паэтэса — гэта калі падкрэсліваць гарадское паходжанне, філалагічную адукацыю ці салоннасць літаратурнай імпрэзы. Усе тры версіі маюць права на існаванне, як на мой погляд.

**— У якіх узаемадачыненнях ваша лірычная гераіня Людка Сільнова і шчасце (жаночае, чалавечае)?**

— У маладосці жылі разам, хоць і моцна сварыліся. А з узростам разышліся, як муж і жонка: нібы не даравалі адно аднаму «здрады», што доўжылася гадамі. Наогул, лірычная (і не толькі!) гераіня Людка Сільнова — цалкам прыдуманы мной персанаж. Тады, у 1980-х гадах, мне як філолагу падалося, што беларускай паэзіі не хапае такой паэткі. Дзёрзкай і смелай. Наіўнай і рацыянальнай адначасова. Некаторыя крытыкі называлі яе вершаваныя радкі, тэмы «халоднымі», ад якіх дзьме «касмічны холад».

Лірычная гераіня, а менавіта маладая Людка — шчаслівая; а яе аўтар і носьбіт — як калі...

Ірына ШМАТКОВА



Людміла КЕБІЧ

## Адна з дарог

*Адна з усіх маіх дарог*
*заўжды вядзе мяне дахаты*
*на той астуджаны парог,*
*дзе так любіў сядзець мой тата.*

*Адна з усіх маіх сцяжын*
*заўжды вядзе мяне дахаты,*
*дзе сярод вішань і малін —*
*матуля ў блузачцы стракатай.*

*Адна з усіх маіх сцяжын*
*заўжды вядзе мяне дахаты,*
*дзе без нагодаў і прычын*
*ігралі песні мне два браты.*

*Адна з усіх маіх сцяжын*
*заўжды вядзе мяне дахаты,*
*дзе сярод вершаў і карцін*
*былі мы душамі багаты.*

*Хлеб быў смачнейшы за пірог,*
*а кожны дзень — маленькім святам…*
*Таму адна з усіх дарог*
*заўжды вядзе мяне дахаты.*

## Бабуліна песня

*Замяце завіруха*
*і надворак, і сад,*
*ляжа снег белым пухам —*
*пасвятлее пагляд.*

*І бабуліна песня*
*аб сівой даўніне,*
*як жаўрук напрадвесні,*
*маё сэрца кране.*

*Спрацаваныя кросны*
*ціха скрыпнуць у сне,*
*і прысядзе нязлосны*
*вецер на каміне.*

*Калі сціпла і проста*
*мне бабуля пяе*
*пра каханне і ростань,*
*пра дзявоцтва яе,*

*Мне чамусьці здаецца,*
*што з такім пачуццём*
*у той песні пяецца*
*пра мой лёс і жыццё.*

*Я сяджу на каленях,*
*і бярэ мяне жах*
*ад той сілы натхнення*
*і ад бляску ў вачах.*

*Тая песня, як брага,*
*хмеліць думкі і сны,*
*як бабуліна прага —*
*дачакацца вясны.*

## Акно

*— Для цябе — што ёсць акно?*
*— Хаты частка.*
*— Для мяне што ёсць акно?*
*— Свету пастка.*

*— Ці глядзіш ты за акно?*
*— Мімаволі.*
*— Ці гляджу я за акно?*
*— Шмат даволі.*

*— Што ты бачыш за акном?*
*— Дождж і слоту.*
*— Што я бачу за акном?*
*— Птушак ноты.*

*— Што ты чуеш за акном?*
*— Горад тлумны.*
*— Што я чую за акном?*
*— Сэйшн струнны.*

*— Што там свеціць за акном?*
*— Мне? Нічога.*
*— Што мне свеціць за акном?*
*— Шлях да Бога…*

## Скразнякі

*Скразнякі пранізалі душу,*
*халадамі ахуталі плечы.*
*Скразнякі — у сабе іх нашу,*
*і нявечу сябе, і калечу.*

*Скразнякі працялі навылёт.*
*Зноў расплецены думкі, бы косы!*
*Скразнякі — я гатова на ўзлёт*
*над сабою, нясправджаным лёсам…*

*Над усім, што люблю, чым жыву*
*і на сэрцы параненым грэю.*
*Скразнякі — кружыць вір галаву,*
*і, пранятая імі, дурэю.*

*Скразнякі — небяспечны кураж*
*і, на жаль, ратаўнічы мой вектар.*
*Скразнякі — вось і ты ўжо міраж*
*у дрыготкім жыццёвым паветры.*

*Скразнякі, адпусціце, прашу,*
*хоць у гэты валошкавы вечар.*
*Скразнякі пранізалі душу —*
*не прыняць, не прагнаць, не адрэчыць.*



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

***

*ад маўчання твайго нямею*
*напэўна таму што не ўмею*
*пачуцці хаваць у глыбока*
*мяне без цябе ўсё меней*

## Пазычанае

*ці то памаранчавы вецер падзьмуў*
*ці то палкасць дыхання твайго*
*распалілі цяпельца ўнутры*
*прахалодный кастрычніцкай ноччу*

***

*даўно вядома — ўсё падман*
*балючы прыкры бессэнсоўны*
*але ж тваім вачам рукам*
*і голасу твайму паўсоннаму*
*я веру…*

***

*джэмпер пахне*
*каштанавым подыхам тваіх валасоў*
*наравістая восень*
*як з пунсовага яблыка*
*выціскае з сэрца апошні сок*

***

*і не думаў ніколі, што раніца*
*бывае такой безаблічна-пустою*
*без цябе мая любая*
*нярodнае ўсё не тое*

***

*ноч зазірнуўшы ў твае вочы*
*ад святла іх аслепла і звар'ячела*
*а я бы па азбуцы Брайля*
*чытаю паэму твайго цела*

Фота Кастуся Дробава.



## Дэбют



Ала БЯЛЬКОВА

**Ала Бялькова нарадзілася і жыве ў Гомелі. Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. Па прафесіі эканаміст. Аўтар кніг для дзяцей «Трепетный рассвет» і «Палитра звука / Палітра гуку». Узнагароджана дыпломам «За яркі дэбют» на V Міжнародным конкурсе «Лепшая кніга года 2014» (Берлін, Літаратурны інстытут імя А. П. Чэхава).**

## Вясновыя матывы

*Ліецца зноў мелодыя Вясны*
*На беразняк і на сасоннік рослы.*
*І сталі явай сонечныя сны,*
*І распусцілі вербы свае косы.*
*Трывожна лес зімой халоднай спаў,*
*Пакуль вакол віхурылі завеі.*
*І ветрык, што кружыўся і скакаў,*
*Прынёс сюды найлепшыя надзеі.*

*Мелодыю вясны я падхаплю,*
*Яна уздыхам кожным поўніць цішу.*
*Напеў вясновы я не разлюблю,*
*Не трэба мне матыў ніякі іншы…*

## Світанак

*Зорачка ў небе міргае агеньчыкам,*
*Ранак ціхутка ў акно зазірнуў.*
*Ён абудзіў мяне цёплым праменьчыкам,*
*Сонечным зайчыкам мне падміргнуў.*
*Я пасміхаюся дню прамяністаму,*
*Сонцу, што ў сінюю далеч плыве.*
*Цешуся ўвечары небу іскрыстаму,*
*Раніцай — ліўнем памытай траве.*
*Бачу абшары я, далечы звонкія,*
*Шчырае радасці мне не ўтаіць,*
*Клікалі ў гаі бярэзінкі стромкія,*
*Каб сокам сваім мяне напаіць…*
*Вы не журыцеся, зорка займаецца,*
*Пух з дзьмухаўцоў легкакрылы ляціць!.*
*Хай жа вам кожны дзянёк усміхаецца,*
*Сонейкам ясным з нябёсаў глядзіць!*

## Крыніца

*У кожнага ў душы — свая крыніца,*
*Надзеі поўная, любві і веры.*
*Шлях асвятляе, нібы паланіца,*
*Што апусцілася з нябеснай сферы.*
*Бываюць душы з чорнаю вадзіцай,*
*Дзе злосць жыве, дзе прагнасць,*
*брыдкаслоўе,*
*Заледзянела чыстая крыніца,*
*І не сагрэе цёплае надвор'е.*
*Што замінае быць ёй непаўторнай?*
*Ёй адмысловыя патрэбны ўмовы?*
*Душу ачысціць як ад фарбы чорнай,*
*Не даць застыць у кайданах зімовых?*
*Нам марыцца святой вады напіцца,*
*Там, дзе існуюць чыстыя намеры.*
*Як добра, калі ёсць свая крыніца,*
*Надзеі поўная, любві і веры.*

## Караван

*Мораў не знайсці і акіянаў,*
*Дзе гарачы сухавей жыве.*
*Сярод хваляў сыпкіх і барханаў*
*Караван задумлівы плыве.*
*Выдмы аксамітныя люляюць,*
*Але ў далеч клічуць віражы.*
*І вандроўцаў стомленых натхняюць*
*Зманлівыя ў небе міражы.*
*Колькі ўжо спякотных дзён мінула,*
*Не ўзысці ў пустэльні каласку.*
*Збылтаная кучма саксаула*
*Сохне на распаленым пяску.*
*Паплывуць аднойчы караваны,*
*Дзе аазіс казачны, на ўсход,*
*Моры дзе шумяць і акіяны,*
*Кружыць чаек белы карагод.*



Генадзь АЎЛАСЕНКА

# ПАДАРОЖЖА ПРАЗ ЗАЧАРАВАНЫ ЛЕС

*Фантастычнае апавяданне*

— Гэтая карціна не прадаецца!

Менавіта такі адказ я падсвядома і чакала пачуць ад мастака, але ўсё ж зрабіла выгляд, што вельмі здзівілася.

— Чаму не прадаецца? — я кінула шматзначны позірк у процілеглы бок залы, дзе высокая хударлявая жанчына, апранутая блякла і вельмі безгустоўна, штосьці ажыўлена апавядала чарговаму патэнцыяльнаму пакупніку. Дарэмна апавядала: пакупнік гэта аніякі! Звычайны разявака, марнуючы час, зусім выпадкова патрапіў на гэтую выставу-продаж.

У адрозненне ад мяне…

— Паглядзіце лепш сюды! — перахапіўшы мой погляд, устрывожана загаварыў мастак. — Вось на гэтую карціну… ці вось на суседнюю з ёй… Прыгожыя, праўда?

— Прыгожыя! — вымушана была згадзіцца я.

— Куды лепшыя за тую, ці не так?

— Магчыма, — сказала я і, крыху памаўчаўшы, дадала: — Але ж я хачу купіць менавіта тую карціну. Дзе начны лес і маленькая хацінка ў глыбіні…

— Гэтая карціна не прадаецца! — з нейкім нават адчаем усклікнуў мастак, трывожна сплятаючы і расплятаючы тонкія нервовыя пальцы. — Я ж вам, здаецца, ужо сказаў!

— Але ж у аб'яве каля ўвахода пра гэта нічога не было сказана, — запярэчыла я. — Наадварот, там напісана, што можна набыць любую карціну з выставы.

— Любую, акрамя…

Тут мастак змоўк, не дагаварыўшы, і так умольна на мяне паглядзеў, што стала яго крышачку шкада. Нават не крышачку, а вельмі, але…

Гэта нічога не мяняла!

Мне была патрэбна менавіта карціна з начным лесам і маленькай хацінкай у цьмянай глыбіні. І аніякая іншая карціна замяніць яе не магла.

— Добры дзень вам! — пачулася за маёй спінай, і, азірнуўшыся, я ўбачыла побач усё тую ж высокую жанчыну ў безгустоўным адзенні (і гэта жонка мастака, называецца!). — Жадаеце што-небудзь набыць?

— Так, жадаю! — я старалася пры гэтым не сустракацца поглядам з мастаком. — Вунь той пейзажык з начным лесам. Колькі каштуе?

— Дзве… не, тры тысячы даляраў! — тонкім, дрыжачым ад хвалявання фальцэтам выгукнуў мастак, наіўна спадзеючыся адпудзіць мяне ад карціны такім неверагодным (на ягоны погляд) коштам. — І ні даляра менш!

— Ты што, Анатоль?! — з вышыні свайго амаль баскетбольнага росту жанчына з недаўменнем утаропілася на мужа. — Ты што, Анатоль?! — паўтарыла яна ўжо з раздражненнем і нейкай непрыхаванай злосцю.

Нічога не адказваючы, мастак (ён жа Анатоль) нізка апусціў галаву і ўвесь неяк нават скукожыўся. У думках ён ужо развітваўся з карцінай, якую так і не змог адстаяць.

— Вы не слухайце яго, — таропка прагаварыла жанчына, зноўку паварочваючыся ў мой бок. — Гэта ён… гэта ён проста жартуе так! Пяцьсот даляраў… кошт адзіны для кожнай з гэтых… з гэтых твораў…

Апошнія словы яна вымавіла з уяўным намаганнем.

«Хоць бы адну карціну прадаў, дэбіл! — міжволі прачытала я яе думкі. — І гэтая дурніца, напэўна, пастаіць, паглядзіць, ды так і не купіць… дорага, скажа. Ці мо да трохсот збавіць?»

— Не, чаму ж… — я знарок павольна пакорпалася ў сумачцы, выцягнула з яе чорнае бліскучае партманэ. — Тры тысячы дык тры тысячы… нічога не маю супраць…

Можа, хоць гэта крышачку суцешыць небараку? І жонка не так моцна будзе «пілаваць» сённяшнім вечарам.

Ды і жыццё ягонае стане куды спакайнейшым без гэтай карціны.

А мне што?! Не мае гэтыя грошы, Магістра... А ён ад такой дробязі не збяднее...

***

З Магістрам я звязалася адразу ж, як толькі пакінула выставу. Не па мабільніку, вядома ж… Напрамую.

— Знайшла?! — адразу ж спытаўся ён і, нават не чакаючы майго адказу, скіраваў: — Вязі да мяне!

— Там начны цёмны лес… — адразу ж папярэдзіла я. — І будыніна нейкая незразумелая ў глыбіні…

— І што? — у голасе Магістра я адчула амаль непрыхаваную іронію. — Іншай жа ўсё роўна няма?

— Няма! — вымушана была пагадзіцца я. — І, здаецца, не прадбачыцца нават…

— Тады якая размова?

— А можна, я проста праскочу зараз да вас? — спыталася я. — Неахвота таксі лавіць…

— Ды ты што?! — устрывожыўся Магістр. — Карціну сапсуеш! Ведаеш, якія яны далікатныя?

— Ведаю! — уздыхнула я і, адключыўшыся, пачала лавіць таксі.

***

Гэтая карціна і сапраўды была вельмі і вельмі далікатная.

Таму што жывая…

Гэта цяжка растлумачыць і амаль немагчыма зразумець. Здавалася б, карціна як карціна, нічым асаблівым не адрозніваецца ад усіх астатніх… І тэхніка выканання не вельмі, і сюжэт не сказаць каб занадта ўжо арыгінальны.

І тым не менш…

На такую карціну хочацца глядзець і глядзець, не адводзячы вачэй. Штосьці ў ёй ёсць такое... Нейкая своеасаблівая прыцягальнасць, якая адначасова і зачароўвае, і ўстрывожвае.

Нават звычайныя людзі здольныя адчуць гэта, не ўсе, зразумела, але многія (вось і сам мастак штосьці такое адчуваў падсвядома). І толькі мы па-сапраўднаму разумеем усю адметнасць і незвычайнасць «жывых» карцін.

А таксама відавочную небяспеку, бо часам праз іх у нашу рэчаіснасць такое можа патрапіць! І трапляе, пакідаючы за сабой крывавы след жорсткіх загадкавых забойстваў альбо цэлы чарады таямнічых і незразумелых знікненняў.

Але растлумачыць сапраўдную прычыну з'яўлення такіх незвычайных карцін не можам нават мы. Нягледзячы на шматлікія даследаванні.

Праўда, тое-сёе ўсё ж атрымалася высветліць дзякуючы гэтым даследаванням.

Па-першае, «ажываць» маглі толькі пейзажы і толькі рэалістычныя пейзажы, прычым незалежна ад таго, якімі фарбамі карыстаўся мастак. Але на пейзажах гэтых не павінна было быць ні жывёл, ні, тым больш, чалавека. Такія пейзажы не «ажывалі» ніколі.

Па-другое, з'яўленне жывых карцін ніякім чынам не залежала ад таленту майстра, ад ягонага творчага досведу і вядомасці. Гэта магла быць самая першая карціна мастака-пачаткоўца, а магла — і сотая карціна мастака больш сталага ўзросту... Але, на жаль, ні адзін не здолеў стварыць больш за адну такую карціну. Нібыта нейкую часцінку душы пакідаў ён у ёй… Часцінку, якая ўжо так і не змагла потым аднавіцца…

А калі ўлічваць, што далёка не ў кожнага з мастакоў (з сапраўдных майстроў, я маю на ўвазе, пра іншых і гаворка не ідзе!), наогул, хоць адна з карцін раптоўна «ажывала», можаце ўявіць сабе, якая гэта рэдкасць — «жывая» карціна! І як мне пашчасціла з яе набыццём, калі я зусім выпадкова зазірнула на гэтую больш чым сціплую і зусім нават непрыкметную выставу-продаж!

А можа, і не зусім выпадкова? Штосьці нібыта падштурхнула мяне, калі я проста праходзіла міма...

— Тут спыніцеся! — загадала я таксісту і, сунуўшы грошы, пабегла ў пад'езд. Потым, нават не зірнуўшы ў бок ліфта, таропка ўзнялася на сёмы паверх.

Калісьці сюды я заходзіла даволі часта, але заўсёды напрасткі, праз партал. А вось сёння, з-за карціны гэтай, вымушаная пераадолець кожную прыступачку.

Магістр ужо чакаў каля дзвярэй, поўнасцю экіпіраваны. Побач стаяў Хасан, таксама апрануты для падарожжа.

На абодвух былі вайсковыя камуфляжныя камбінезоны і высокія скураныя чаравікі на шнуроўцы. Іх, здаецца, берцамі называюць... На поясе ў кожнага — паляўнічы нож з загартаванай сталі і баявая сякерка на доўгай рукаятцы. І ўсё. Ні агнястрэльнай зброі, ні арбалетаў, ні нават дроцікаў. У падарожжы праз карціну гэта ўсё роўна не спрацуе, бо там няма прастору.

А вось розных крыважэрных пачвар там напаткаць можна, нават у самых светлых і сонечных «жывых» пейзажах. Што ж тады казаць пра карціну з начным лесам і незразумелай будынінай у глыбіні!

Узяўшы (а дакладней, выхапіўшы) з маіх рук карціну, Магістр нейкі час толькі моўчкі яе разглядваў. Хасан з-за пляча Магістра таксама ўважліва пазіраў.

— Хацінка мяне непакоіць, — рэзюмаваў ён нарэшце. — Хто яго ведае, у якім настроі быў мастак, калі яе маляваў, але лепей, каб будыніны гэтай тут не было!

— Яна ёсць! — Магістр па-ранейшаму не адводзіў занепакоенага погляду ад карціны. — І з гэтым, на жаль, нам давядзецца змірыцца.

Павярнуўшыся, ён павольна рушыў у суседні пакой, і нам з Хасанам нічога не заставалася, як толькі пайсці следам. А потым далей і далей... І вось мы апынуліся, нарэшце, у зусім невялічкім пакойчыку з металічнымі сценамі, столлю і падлогай. Сапраўдны пакой-сейф, тым больш што і дзверы, якія сюды вялі, таксама былі падобныя да таўшчэзных дзверцаў сейфа. Праўда, зачыняцца гэтыя дзверцы маглі не толькі знадворку, але і знутры. Разумная перасцярога.

У пакоі-сейфе не было нічога, акрамя яшчэ адной карціны, што стаяла на падлозе каля сцяны. Таксама пейзаж, але светлы, сонечны. Вялізны альпійскі луг з мноствам самых разнастайных кветак, высокія сінія горы на заднім плане.

І дзве цёмныя размытыя пляміны ўдалечыні, вельмі падобныя да чалавечых постацей, якія ці то моцна абняліся, ці то проста сталі зусім побач.

Гэтая карціна таксама была калісьці «жывой» і, на першы погляд, поўнай пяшчоты і нейкага жыццесцвярджальнага заспакаення, але гэта толькі на першы погляд. І чым далей я ўглядалася ў карціну, тым большую трывогу і непакой адчувала. Штосьці затаілася там, у высокай, густой гэтай траве, жудаснае, пачварнае штосьці... І гэтае «штосьці» вось-вось павінна было хоць неяк ды праявіцца...

Але тут Магістр нахіліўся і засланіў альпійскі луг пейзажам з начным змрочным лесам:

— Усё, Ксенія! Дзякуй за карціну. Сума, якую ты патраціла, пералічана на твой рахунак. У двайным памеры і разам з прэміяльнымі. А зараз...

— Пачакайце! — разгубілася я, пераводзячы ўмольны позірк з Магістра на Хасана і наадварот. — Вы што, не возьмеце мяне з сабой?

Адказу я так і не пачула, але іх узаемнае маўчанне было дастаткова красамоўным.

— Але ж вы абяцалі! Вы пры ўсіх аб'явілі, што той, хто першым знойдзе «жывую» карціну...

— Проста я не думаў, што гэта будзеш ты, — адводзячы погляд, буркнуў Магістр. — І што пейзаж будзе такім... такім няпростым...

— Мне пляваць, што вы там думалі! — закрычала я, махнуўшы рукой на ўсялякую субардынацыю. — Вы далі слова, а слова нельга парушаць! Нікому, тым больш Магістру!

Нічога на гэта не адказваючы, Магістр зірнуў на Хасана, нібыта чакаючы ад яго падтрымкі. І я таксама зірнула на Хасана, але той толькі спачувальна мне ўсміхнуўся.

— Хтосьці ж павінен застацца тут. І потым, чым больш людзей, тым горшым можа аказацца вынік… Ды ты і сама гэта выдатна разумееш…

Я і сапраўды разумела гэта. Як і тое, што хтосьці абавязкова павінен тут застацца. Толькі чаму я?!

***

Зараз карціна і сапраўды нібыта «ажыла», і я, стоячы перад ёй, магла выразна назіраць, як прабіраюцца праз начны гушчар дзве маленькія чалавечыя фігуркі. Міжволі захацелася засунуць у карціну руку і дапамагчы ім, разгарнуўшы ў бакі ўсё тое ламачча, якое Магістр з Хасанам вымушаны цяпер з цяжкасцю пераадольваць. Але я, вядома ж, не стала гэтага рабіць, добра памятаючы, што здарылася напрыканцы мінулага месяца, калі Хасан…

У рэшце рэшт, у Хасана проста не было іншага выйсця, і ён зрабіў тое, што і павінен быў зрабіць, бо шанцаў справіцца самастойна з тымі жудаснымі крылатымі монстрамі ў Роберта і Джамілі не мелася аніякіх. Але, хоць Магістр ні словам не папракнуў тады Хасана, сам Хасан увесь гэты час адчувае сябе вінаватым…

І не таму, што Роберт — адзіны сын Магістра, не таму, што Джаміля — родная сястра Хасана. Проста Хасан чамусьці ўбіў сабе ў галаву, што быў у закаханых шанц паспець пераадолець тую частку альпійскага лугу, якая ім яшчэ заставалася да выхаду. Ну, а тыя, жудасныя з выгляду крылатыя істоты, магчыма, і не збіраліся нападаць на ўцекачоў, а проста спрабавалі напалохаць іх, прагнаць са сваёй тэрыторыі.

Але, як бы там ні было, карціна з-за гэтага ўмяшання з «жывой» ператварылася ва «ўмоўна жывую», а Роберт і Джаміля так і не змаглі з яе выбрацца, проста ператварыўшыся ў арганічную частку мясцовага пейзажа. «Выйсці» адтуль, дакладней, вывесці іх зараз можна было толькі праз іншую, па-сапраўднаму «жывую» карціну.

Такую, як гэты начны лес са злавеснай хацінай у таямнічай ягонай глыбіні, хоць проста прайсці яго наскрозь, каб выйсці потым да альпійскага лугу, — сама па сабе даволі няпростая задача.

# ІНТЭЛЕКТ НЕ СПІЦЬ!

## Як не разгубіцца ў багацці прапаноў «Бібліяночы»?

Бібліятэкі ўсё больш эксперыментуюць, адыходзячы ад вобраза кнігасховішча: прапануюць камунікацыйную платформу, клубны фармат, службы па інфармацыйнай лагістыцы, пляцоўкі для розных відаў мастацтваў… Міжнародная акцыя «Бібліяноч» — прыклад іншага ўяўлення пра імідж бібліятэкі. «Бібліяноч» зараджае кніжніцу новым жыццём, дэманструючы, як у прасторы з кнігамі можна сустракацца, адукоўвацца, цікава бавіць час. У Беларусі акцыю ўпершыню зладзілі ў 2015-м. Першай бібліятэкай Мінска, якая афіцыйна далучылася да міжнароднай акцыі, стала ў 2015 годзе Навуковая бібліятэка БНТУ. У 2016-м такіх бібліятэк-удзельніц стала 4, а сёлета — 7. На мінскай карце «Бібліяночы» — 7 кніжніц, кожная з якіх падрыхтавала супернасычаную праграму на розны густ. Вось толькі як усё ахапіць за адну ноч?

### У ТЭЛЕСКОП НА ВЯРШЫНІ «АЛМАЗА»

Паназіраць за зорным небам у тэлескоп можна будзе на «Начной панараме» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Для заказаных — асаблівы сюрпрыз!.. Плюс лекцыя ад астранома пра Сусвет, жывая музыка, лірыка беларускіх аўтараў... Усяго 16 тэматычных пляцовак на любы густ. А восьмай гадзіне ўсіх запрашаюць на бясплатную экскурсію па «Алмазе» — самым незвычайным будынку Мінска. А ўбачыць начны горад з птушынага палёту, праўда, таксама бясплатна?

А яшчэ — арт-кафэ, форум-тэатры, роставыя лялькі, конкурсы, дзіцячыя пляцоўкі. А *chill out* з кнігай — гэта як? Даведаемся? Дзеці змогуць паспрабаваць сябе ў ролі першадрукара на адмысловым уроку. «*Hobby World*» адкрые незвычайны свет настольных гульняў. Інтэлектуалаў чакаюць сеансы гульні па шахматах і шашках «Шах & Мат», а таксама сустрэча з міжнародным гросмайстрам па шашках Андрэем Валюком. У «Інтэлектуальным эпіцэнтры» — пазнавальныя гульні і тэсты на *IQ*. На рэлакс — танцы: сучасныя, народныя і нават бальныя. У «Горадзе майстроў» — працьма майстар-класаў і ідэй: *make-up* і стыль, *handmade*, паказ мод, лекцыі ад прафесійнага агранома і відэаўрокі для садаводаў.

### КУДЫ ПРЫВЯДЗЕ ЛАБІРЫНТ?

Літаратура пад грыфам «для службовага карыстання», старажытныя энцыклапедыі, рарытэтныя выданні… Спасцігнуць таямніцы прапануе Рэспубліканская навуковая медыцынская бібліятэка. Толькі сёння ўнікальная магчымасць: адолеўшы чароўны лабірынт, можна трапіць у самае галоўнае месца бібліятэкі — кнігасховішча.

Праверыць камандны дух, эрудыцыю — інтэлектуальная гульня «Выбух мозгу»: пытанні па гісторыі, геаграфіі, хіміі, фізіцы, метэматыцы, мастацтве, медыцыне, літаратуры, разгадванне музычных кампазіцый з кіно і мультфільмаў. Пераможцам — смачныя прызы. Усяго тры гульні, каманды набіраюцца па жывой чарзе, без рэгістрацыі, з 19.00 да 23.00.



Разам з бібліятэкай наведвальнікаў чакае музей гісторыі медыцыны Беларусі. Зазірніце ў адмысловы аддзел паліграфіі РНМБ на майстар-клас па пераплёце «Сам сабе першадрукар» і зрабіце сувенір сваімі рукамі ў тэхніцы «Сапраўдная кніга». Таксама ў праграме папулярная бібліямафія (дрэс-код вітаецца), фотаквэст, лекторыум, квесторыум «Ядзерная медыцына»…

### ПА ЧЫРВОНАЙ ДАРОЖЦЫ АД *«FASHION STYLE»*

Перанесціся ў атмасферу 50-х гадоў XX ст. запрашае Фундаментальная бібліятэка БДУ. У салоне прыгажосці «Каляровы настрой» прафесіяналы дапамогуць стварыць стыльны вобраз з каларытам той эпохі. На чырвонай дарожцы зладзяць паказ калекцый ад «*Fashion Style*». Мадэлі прадставяць удзельніцы подыум-школы «Млын моды».

Чакае сустрэча ў літаратурна-музычным салоне «Кактэйль-Хол на Кальварыйскай» з членамі Клуба аматараў мастацкага слова «Клумба» БГУ. У танцавальнай праграме — джайв, факстрот, рок-н-рол, бугі-вугі, слоў-фокс, танга, твіст.

### ЁН І ЯНА

…будуць валадарыць у Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы. Спецыяльныя госці Тамара Лісіцкая і Ігар Паляком прадставяць літаратурна-музычную праграму «Мужчына і жанчына. Рэпетыцыя». У літаратурнай частцы — паэтычна-музычная імпрэза «Абрысы» з удзелам Яраша Малішэўскага і Вадзіма Клімовіча; «Літаратурнае прадмесце» з Людмілай Рублеўскай ды іншымі папулярнымі аўтарамі; прэзентацыя кнігі «У гасцях у Францыска Скарыны». А таксама — квэст «Скарбніца пакаленняў», кулінарны майстар-клас ад эксперта беларускай кухні Алены Мікульчык; рэтра-кінатэатр…

### РАСШЫФРАВАЦЬ ГЕНОМ?

Як зрабіць простую галаграму, ці фотаапарат без лінзаў; як варэнне з чарніц дапамагае вывучаць хімію, растлумачаць у праекце «Цікавая навука» супрацоўнік навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па матэрыялазнаўстве Рыгор Русецкі і вядучая і кіраўнік праекта «Папулярная навука па-беларуску» Настасся Палтаржыцкая. Шмат займальных эксперыментаў падчас аптычных і хімічных вопытаў прапануе Цэнтральная навуковая бібліятэка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У тым ліку навукова-папулярны воркшоп «Незвычайная хімія».

Чый геном можна знайсці ў адкрытым доступе? Што распачало эру генетыкі ў біялогіі? Пра гэта — у лекцыі «10 галоўных адкрыццяў у сучаснай біялогіі» ад кандыдата біялагічных навук, навуковага супрацоўніка лабараторыі медыцынскай біяфізікі Інстытута біяфізікі і клетачнай інжынерыі НАН Беларусі Аляксандры Скорабагатавай.

Гэтай ноччу ЦНБ НАН прадставіць выстаўку рэдкіх і каштоўных выданняў «Таямніцы старадаўніх кніг». Можна азнаёміцца з самымі раннімі кірылічнымі кнігамі, надрукаванымі паслядоўнікамі Францыска Скарыны, пабачыць выданні грамадзянскага друку, даведацца, якія кнігі захоўваліся ў Нясвіжскім палацы князёў Радзівілаў...

Падчас розыгрышу латарэі ёсць унікальны шанц выйграць незвычайную кнігу. Для гэтага трэба запісацца ў ЦНБ НАН, атрымаць латарэйны квіток з нумарам чытацкага білета і чакаць бібліяночы...

У незвычайным фармаце праекта «Спеўны сход» прапануюць узгадаць песенную класіку легендарных «Песняроў». Разам з музыкам Сержуком Доўгушавым заспяваем «Касіў Ясь канюшыну», «Рушнікі», «Завушніцы» ды іншыя.

Запланавана безліч карыснага: дзіцячая лабараторыя цудаў; лекцыя псіхолага-трэнера, а таксама лекцыя культуролага Юліі Чарняўскай пра шасцідзясятыя гады і людзей, якія паверылі ў адлігу; падарожжа ў 60-я, калі ЦНБ НАН пераехала ў новае памяшканне; інтэрактыўная кніжная выстаўка «*Homo ludens* — чалавек, які гуляе»...

### НАМАЛЯВАЦЬ КОМІКС

Фантастычная экспазіцыя Музея займальных навук «КВАНТУМ» — ад Навуковай бібліятэкі БНТУ. Тут жа футурыстычныя прагнозы ад фізіка, пісьменніка-фантаста Сяргея Слюсарэнкі. У лекцыйнай зоне ілюстратар, дырэктар школы камп'ютарнай графікі і анімацыі *FUNGI studio* Уладзіслаў Мароз распавядзе пра канцэпт-арт у коміксах.

Майстар-клас па маляванні коміксаў дапаможа стварыць агульны вялікі комікс, дзе кожны зможа праявіць творчасць.

Сустрэча з аўтарамі, ілюстратарамі, экспертамі: у гасцях — Вольга Грамыка, Людміла Рублеўская, Сяргей Слюсарэнка, Маргарыта Латышкевіч. Кульмінацыяй ночы стане фаер-шоу.

### ПА ЎНУТРАНАЙ ПРАСТОРЫ

«Блізкія людзі» — тэма сустрэчы ў Бібліятэцы філіяла Расійскага дзяржаўнага сацыяльнага ўніверсітэта ў Мінску. Імпрэзу аздобяць музычны студэнцкі канцэрт, майстар-класы ад псіхолага, гульня «Вандроўка ва ўнутраную прастору».

### КАМАНДНАЯ ГУЛЬНЯ

Якую гасцёўню выбраць: навуковую, гульнявую, інтэлектуальную ці тэатральную? Бібліятэка г. Баранавіч прадстаўляе на «Бібліяноч» багаты выбар. У навуковай будзе некалькі румаў з пытаннямі, заданнямі, эксперыментамі і прызамі! Умова — зарэгістраваць каманду.

### У АНГЛІЙСКІМ КАСЦЮМЕ

…па білетах, з дрэс-кодам — такія патрабаванні выставіў гаспадар «Бібліяночы» ў магілёўскай Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя К. Маркса Шэрлак Холмс. Яму прысвяцілі імпрэзу, таму прыйдзецца апранууца ў класічны англійскі касцюм. Разам з Шэрлакам: гульня ў дэдукцыю, ролевы квэст-рум, жывая музыка, майстар-класы па вязанні і каліграфіі, гульнятэкі, буккросінг, фотазоны, прызы ад сеткі кінабараў і нават бібліябар.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Учытвацца ў словы

## раілі ўдзельнікі VII Пысінскіх чытанняў

Канферэнцыя ладзілася ў Магілёўскай абласной бібліятэцы і мела даволі насычаную праграму. Невыпадкова: сышлося шмат дат, знакавых для літаратуры Магілёўшчыны. І галоўная...

Праграма канферэнцыі «У небе і кнізе — сонца» прысвячалася 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Значэнне гэтай падзеі пацвярджаецца ініцыятывай правядзення сёлета абласнога конкурсу «Скарынавай душою ўзлашчанае слова…» на лепшы літаратурны твор, прысвечаны жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны, які названы першым радком верша Анатоля Зэкава.

Дырэктар бібліятэкі Ілона Сарокіна ў прывітальным слове ўзгадала іншыя знакавыя юбілейныя даты бягучага года, сярод якіх 750-гадовы юбілей г. Магілёва. Асноўны клопат бібліятэкі — захаванне ўвагі да творчасці беларускіх і магілёўскіх пісьменнікаў Аляксея Пысіна, Алеся Адамовіча, Алеся Пісьмянкова.

У фармаце мультымедыйнай прэзентацыі «Сучаснае і вечнае: слова пра Аляксея Пысіна» прадставілі своеасаблівую справаздачу пра дзейнасць абласной бібліятэкі па папулярызацыі творчасці і захаванні памяці А. В. Пысіна. Кожны год нязменны ўдзельнік Пысінскіх чытанняў — сябра А. В. Пысіна, старэйшы краязнаўца і пісьменнік, ветэран працы, былы супрацоўнік абласной бібліятэкі Віктар Арцем'еў. Віктар Іванавіч расказаў пра свае 6 кніг, якія напісаў як даследчык жыцця і творчасці А. В. Пысіна.

Госць канферэнцыі, беларускі пісьменнік, ураджэнец Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці Віктар Карамазаў, які таксама сябраваў з А. В. Пысіным, распавёў пра сваю першую сустрэчу з паэтам, пра яго каштоўныя чалавечыя, маральныя і прафесійныя якасці: «…Аляксей Пысін стварыў рэгенерацыю пісьменнікаў Магілёўшчыны: А. Сербантовіча, А. Пісьмянкова, С. Гаўрусёва, А. Кудраўца, М. Стральцова». А таксама пажадаў моладзі «лепш учытвацца ў творы паэта, а не ў тое, што пра яго пішуць…».

Прыемна, што ўжо другі год у праграму Пысінскіх чытанняў заяўляюць даклады прадстаўнікі студэнцкай моладзі. Студэнтка 5 курса гісторыка-філалагічнага факультэта МДУ імя А. А. Куляшова Настасся Ніколаева ў літаратурным эцюдзе «Рукі бацькі» выказала меркаванне аб актуальнасці вершаў А. Пысіна.

Адзін з блокаў праграмы быў прысвечаны значнай асобе ў беларускай літаратуры, літаратуразнаўстве і кінематаграфіі — пісьменніку, сцэнарысту Алесю Міхайлавічу Адамовічу. На неабходнасць супрацоўніцтва грамадства і ўлады па стварэнні музея Алеся Адамовіча ў пасёлку Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці звярнула ўвагу карэспандэнт газеты «Звязда» Нэлі Зігуля. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін МДУ імя Куляшова А. Р. Агееў паведаміў наогул пра грамадскія ініцыятывы ў г. Магілёве і ў прыватнасці пра стварэнне музея Алеся Адамовіча. Аляксандр Рыгоравіч параіў бібліятэцы выступіць з ініцыятывай выдання кніг А. В. Пысіна ды іншых магілёўскіх пісьменнікаў.

Завяршылася праграма Пысінскіх чытанняў днём адчыненых дзвярэй. Усяго бібліятэку ў дзень адчыненых дзвярэй наведала больш за 400 чалавек, а сталі чытачамі — 92.

**Вольга ЧУМАКОВА**

# Гісторыі з кніжнага чамадана



Падчас правядзення акцыі.

Культура ў правінцыі асаблівая: яна бліжэй да народа — на скрыжаванні попыту і прапановы. Падыходы да працы Бярэзінскай раённай бібліятэкі цікавыя не толькі формай, а і зместавай думкай. Апошнім часам пашыраную прапіску атрымліваюць мабільныя (паходныя) формы бібліятэчнай прапаганды і агітацыі, разлічаныя на актыўнае прасоўванне бібліятэчных паслуг. Адпраўной кропкай такіх прома-акцый часта выступаюць краязнаўчыя даты. Сёлета Бярэзінскі аўтавакзал адзначыў 30-годдзе навасělля: 7 сакавіка 1987 года размясціўся ў двухпавярховым будынку недалёка ад шашы Мінск — Магілёў. Перанос аўтавакзала на ўскраіну горада дазволіў зменшыць інтэнсіўнасць руху па Кастрычніцкай і Камсамольскай вуліцах, зрабіць больш чыстым паветра ў горадзе.

Да гэтай нагоды была прымеркавана бібліятэчная акцыя на аўтавакзале **«Кніга ў дарожным чамадане»**. У самы час пік, 25 сакавіка, у суботу, супрацоўнікі раённай бібліятэкі завіталі ў залу чакання аўтавакзала.

Бывалыя людзі, калі адпраўляюцца ў дарогу, бяруць з сабою кнігу, газету ці часопіс — паездка стане больш прыемнай і дальняя дарога атрымаецца не такой стамляльнай і аднастайнай. Бібліятэкары назапасілі ў дарожным кніжным чамадане шмат цікавага, у прыватнасці літаратурна-мастацкія часопісы. Сярод стоса часопіснай перыёдыкі на пачэсным месцы — часопіс Саюза пісьменнікаў саюзнай дзяржавы «Белая вежа», пад глянцавай вокладкай якога паядналіся творы беларускіх і расійскіх празаікаў. Тэатр апавядання «Гісторыі з кніжнага чамадана» Бярэзінскай раённай бібліятэкі ажывіў для наведвальнікаў аўтавакзала сюжэты апавяданняў і кароткіх апавесцяў Людмілы Кебіч «Жыццёвыя путы», Славаміра Даргеля «Спадарожнік», Уладзіміра Туліпава «Начныя анёлы», Валянціны Кадзетавай «Сумка з металічнай засцёжкай», Алены Тулі                шавай «Скарб», Ларысы Балібаевай «Рукавічкі на шчасце». Прадстаўленыя бібліятэкарамі творы знайшлі водгук у слухачоў.

Пасля гучных мастацкіх чытанняў да бібліятэкараў падышоў мужчына сталага ўзросту і прызнаўся, што з маладосці любіў чытаць, а вось зараз падводзіць зрок і сустрэчы з кнігай у яго даволі рэдкія. Але чытанні на вакзале прыйшліся яму даспадобы: бычцам пагартаў старонкі добрых кніг. Завяршыліся чытанні буккросінгам «Добрыя часопісы — у добрыя рукі»: пасажырам раздавалі літаратурна-мастацкія часопісы з архіва раённай бібліятэкі.

Далей у праграме прома-акцыі на вакзале быў імправізаваны паэтычны марафон «Чытаем разам любімыя радкі» — сапраўдныя «народныя чытанні» вершаў легендарных расійскіх паэтаў-юбіляраў года Бэлы Ахмадулінай, Яўгена Еўтушэнкі, Роберта Раждзественскага. Маладыя і сталыя пасажыры аўтавакзала ахвотна чыталі іх вершы, якія ўвайшлі ў «Залатую сотню лепшых вершаў усіх часоў і народаў», многія пакладзены на музыку і гучаць у кінафільмах «17 імгненняў вясны», «Іронія лёсу, або З лёгкай парай», «Любоў зямная», «Службовы раман». Сярод пасажыраў знайшліся тыя, хто праспяваў песні на вершаваныя радкі Р. Раждзественскага «Рэха кахання», «Імгненні». Удзельнікі паэтычнага марафону атрымалі станоўчыя эмоцыі, на памяць — прызы. Падчас імправізаваных паэтычных чытанняў узгадваліся цікавыя факты біяграфій знакамітых паэтаў «Малавядомае пра вядомых»:

*Бэла Ахмадуліна нарадзілася праз 100 гадоў пасля смерці А. Пушкіна і пайшла з жыцця таксама праз 100 гадоў пасля смерці Л. Талстога. Незабыўны і арыгінальны ахмадулінскі стыль дэкламавання ўвасобіла артыстка Ія Савіна пры агучванні Пятачка з мультфільма пра Віні Пуха. Яўген Еўтушэнка за паэму «Бабін Яр» на 20 гадоў быў адлучаны ад Украіны: яму не дазвалялі праводзіць творчыя вечары і сустрэчы з прыхільнікамі паэзіі. У фільме «Узлёт» (1979 г.) Еўтушэнка зняўся ў ролі Канстанціна Цыялкоўскага, а Бэла Ахмадуліна ў стужцы Васіля Шукшына «Жыве такі хлопец», якая адзначана «Залатым ільвом» Венецыянскага кінафестывалю, выканала ролю маладой журналісткі. Зборнікі Еўтушэнкі выдадзены на 70 мовах свету, маршруты яго замежных гастроляў не ведаюць роўных у асяродку літаратараў — ён аб'ездзіў усе кантыненты (апроч Антарктыды). У 1993 годзе паэт адмовіўся ад ордэна Дружбы ў знак пратэсту супраць Чачэнскай вайны. Ахмадуліна ў 1959 годзе была выключана з Літаратурнага ўніверсітэта за адказ падпісаць пісьмо з асуджэннем «здрадніка радзімы», лаўрэата Нобелеўскай прэміі Б. Пастарнака. Роберт Раждзественскі з дзяцінства заікаўся, у сваіх вершах ён чаканіў, друкаваў словы, нібыта крок…*

Адметная акцыя, але не апошняя, у якой злучаюцца творцы і чытачы розных краін.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ**

# ЖЫВІЦЦА ПАЭТЫЧНЫМІ САКРЭТАМІ

**Аднойчы вясновым днём уздзенскія паэткі-спявачкі дружна высыпалі з маршруткі «Узда — Бараўляны» на прыпынку «Плошча Якуба Коласа», накіроўваючыся на першае веснавое пасяджэнне народнага клуба кампазітараў і паэтаў Міншчыны «Жывіца» ў бібліятэку А. С. Пушкіна.**

Тры «жывінкі», якія не разлучаюцца з паэтычным словам і песняй: Таццяна Цехнябедзіна і Тамара Каляда спяваюць у народным хоры ветэранаў «Надзея» пры раённым Доме культуры, а трэцяя сяброўка Ала Шыбко з вёскі Цялякава, паэт і кампазітар, аматар песні ў калектыве «Медуніца». Усе яны ўдзельніцы літаратурнага аб'яднання «Нёманец» пры Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса і рэдакцыі газеты «Чырвоная зорка». З іншых раёнаў Міншчыны такія ж няўрымслівыя душы, аматары паэтычнага слова і музыкі таксама дружна завіталі на сустрэчу.

У клубе шырока практыкуецца навучанне правільнасці ўжывання слоў пры стварэнні вершаў ды іншыя сакрэты паэтычнага мастацтва.

У паэтычнай секцыі выступалі паэты з новымі зборнікамі вершаў. Гэтым разам прэзентавалі свае чарговыя выданні чатыры паэткі паважанага ўзросту: Людміла Круглік з Дзяржынска пазнаёміла з кнігай «Вясновы блакіт», Зінаіда Багамолава з Жодзіна — «Мае вёсны», Валянціна Бабко-Аляшкевіч (Салігорскі раён) — «Акенца ў світанак» і «Жаночае шчасце», Тамара Каляда (г. Узда) прадставіла зборнік «Шчасце праз гады».

Свае творчыя здабыткі ў паэзіі прадэманстравала Вераніка Айралава (Нясвіжскі раён), якая закончыла вучобу ў ВНУ, стала мамай і цяпер працуе.

Кіраўнік клуба Ірына Карнаухава раздала вершы на дзвюх мовах для выразнага чытання ў форме дыялогу. Паэты падзяліліся на пары і кожны паказваў сваё ўменне знайсці галоўнае слова ў радку і спрабаваў данесці інтанацыяй пачуцці і сэнс.

У секцыі кампазітараў Ала Шыбко прэзентавала свой першы музычны зборнік «Зноў музыка гучыць». Большасць песень створана на словы самой паэткі пачынаючы са школьных гадоў. Суаўтарамі яе музычных твораў выступілі члены літаб'яднання «Нёманец».

**Тодар ПАЎСЮДНЫ**



Кіраўнік клуба Ірына Карнаухава і кампазітар Ала Шыбко.

# Каштоўнае — пад ручніком

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў бібліятэках Ганцавіцкай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы арганізавана шэраг выставак, дзе прадстаўлена літаратура пра культурных дзеячаў Беларусі — Францыска Скарыну, Еўфрасінню Полацкую, Сімяона Полацкага ды інш.

Цікавую выстаўку прадставіла чытачам Любоў Дзямчук, загадчык Малькавіцкай бібліятэкі-музея. Сярод кніг годнае месца займае «Біблія» на сучаснай беларускай мове (выдавецтва «Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь», 2012 год). Праца над выданнем працягвалася 10 год, і напісана кніга так, што павінна задаволіць патрабаванні ўсіх беларусаў, не падзяляючы іх на групы па канфесійных прыкметах. Дапаўняе выстаўку драўляны чамадан, упрыгожаны беларускім ручніком, — рэч рэдкая з фондаў музея, ад якой патыхае даўнінай. Кожны чытач, які завітвае ў бібліятэку-музей, абавязкова прыпыняецца каля выстаўкі, якая не толькі прываблівае неардынарнай падачай літаратуры, але і напоўнена добрымі выданнямі сучасных аўтараў. А найболей дапытлівыя чытачы, прыадчыніўшы старадаўні чамадан, знойдуць там кнігі пачатку мінулага стагоддзя.

**Таццяна МАЛЯЎКА**

# Ад роднага Палесся

У Пінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Яўгеніі Янішчыц адбылася творчая вечарына клуба літаратараў «Пінчукі». Яна пачалася азнаямленнем чытачоў і прыхільнікаў паэзіі з творчасцю знакамітага пісьменніка, драматурга, кінасцэнарыста Георгія Марчука, названай «Падарожжа ў чалавечае жыццё».

Мерапрыемства невыпадковае: Георгій Васільевіч родам з Давыд-Гарадка, што на Століншчыне, які ахапіла межамі беларускае Палессе, са сваім самабытным укладам жыцця, традыцыямі і звычаямі. Гэта, безумоўна, паўплывала на станаўленне творчай асобы пісьменніка-палешука. Акрамя расповеду пра творчасць Георгія Марчука ў выкананні Вольгі Лемешавай прагучала песня «Мой родны Пінск».

**Галіна ЛАЗІНСКАЯ**

# Аўтар і падарункі

Слуцкая раённая цэнтральная бібліятэка атрымала ў дар ад самога аўтара каштоўны падарунак — збор твораў Сяргея Давідовіча ў шасці тамах. У шматтомнік увайшлі творы розных жанраў на розны густ: вершы, паэмы, аповесці, апавяданні, замалёўкі, гумарэскі, казкі. Тэматычная палітра таксама вельмі разнастайная: разважанні пра лёс, Радзіму, мову, родную прыроду. Сяргей Фёдаравіч — не толькі выдатны пісьменнік, але і таленавіты мастак. Кожны том па-мастацку аформлены самім аўтарам і выглядае вельмі прывабна.

**Валянціна ЦЭГАЛКА**

# Да сусвету Азімава

Клімавічы мяжуюць з некалькімі раёнамі Расійскай Федэрацыі, з якімі ўсталяваныя трывалыя эканамічныя і культурныя сувязі. На пачатку красавіка супрацоўнікі Цэнтральнай раённай бібліятэкі наведалі сваіх калег з Шумяцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай раённай сістэмы і ўзялі ўдзел у V Азімаўскіх чытаннях «Адкрываем свет, Сусвет і кнігі Азімава».

Азімаўскія чытанні ладзяцца з 2012 года ў Шумячах у дзень памяці пісьменніка. Гэта падстава ўспомніць ураджэнца Шумяцкага раёна Айзэка Азімава, які набыў сусветную славу, зацікавіць яго кнігамі і чытаннем наогул, а таксама абудзіць інтарэс да роднага краю. Сёлета споўнілася 25 гадоў з дня смерці пісьменніка-фантаста.

**Юлія КЛІМЯНКОВА**

# Еднасць

## Філасофія ў слове і мастацтве



Аляксандр Шыбнёў «Трубач», 2012 г.

Аб'яднанне мастакоў «Арцель» зноў звяртае ўвагу на вечныя каштоўнасці, якія сціраюцца на стыку эпох і ў плыні штодзённай мітусні, у якой існуе чалавек. Экспазіцыя мастацкіх твораў удзельнікаў аб'яднання прадстаўлена ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў.

«Арцель» — група мастакоў, якія ў грамадстве вядомыя сумленным стаўленнем да мастацтва, кожны з удзельнікаў мае ўласную творчую манеру, адметны асаблівым поглядам на свет. Аб'яднанне заявіла пра сябе ў 2004 годзе, калі была арганізавана першая выстаўка. З таго часу мастацкія праекты «Арцелі» карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў аматараў мастацтва, крытыкаў. Новы праект «Шчасце» не выключэнне. У ім аўтары разглядаюць шчасце не як паняцце, а як сітуацыі, моманты, якія дапамагаюць чалавеку быць шчаслівым.

Арганізатар і галоўны ідэолаг аб'яднання Рыгор Несцераў у межах выстаўкі прэзентаваў сваю кнігу «Часы гісторыі. Рытмы сусветнай культуры», якая была выдадзена ў Канадзе ў 2016 годзе. Кніга цалкам адпавядае канцэпцыі выстаўкі, нават расшыфроўвае яе задуму.

— Удзельнікі нашага аб'яднання вельмі розныя не толькі па стылі ў творчасці, але і па тэмпераменце. Таму напачатку сумняваўся, ці атрымаецца ў нас, — прызнаўся Рыгор Несцераў. — Але, як аказалася, розны погляд на жыццё і з'яўляецца цэласнасцю разумення. Вядома, была рызыка, што мы падзелімся на часткі і не зможам адпавядаць канцэпцыі, але, калі я ўбачыў, як аўтары захоплена адзін з адным дзеляцца думкамі, прапаноўваюць ідэі, страх знік. Назва выстаўкі «Шчасце» невыпадковая, яна непарыўна звязана з сэнсам кнігі, якую я прэзентую. Бо кніга апавядае пра тое, як чалавецтва ва ўсе часы існавання імкнулася быць шчаслівым. Выстаўка і кніга разам нясуць ідэі гармоніі, чысціні, любові, высакароднасці, прыгажосці, ісціны. Адным словам, гэта тыя ідэалы, якія былі ўласцівыя грамадству дзевятнаццатага стагоддзя. У дваццатым жа стагоддзі адбыўся надлом культуры, які працягваўся дастаткова доўга. Сёння ж грамадства мае патрэбу ў адраджэнні гэтых прынцыпаў. Выстаўка нібы ўрок: нельга спачатку ўсё зламаць, а потым хутка пабудаваць новы свет. Так проста гэта не атрымліваецца. Потым усё разбуранае даводзіцца аднаўляць доўга, вялікімі намаганнямі. Але ў наш час ёсць добрая публіка, якая цікавіцца грунтоўнымі праектамі, гатовая ўдумвацца ў сэнс і не адракацца ад каштоўнасцяў. Гэта дапамагае, стымулюе творцаў.

Рыгор Несцераў — чалавек, які ў кожнае дзеянне ўкладае сэнс, шукае ў мастацтве філасофскую глыбіню. Задумаўшы праект «Шчасце», ён хацеў, каб астатнія ўдзельнікі выстаўкі зразумелі яго і з простага, відавочнага вылучылі ісціну. Кожны мастак прытрымліваўся пяці прынцыпаў, якія яшчэ ў 2008 годзе сфармуляваў Рыгор Несцераў, тады іх назвалі маніфестам мастакоў нашага часу: падпарадкаванне розуму і сэрцу, сумленнае прыняцце рэальнасці, разуменне глыбіні і таямніцы, адкрытасць пачуццяў — шчырасці, спачування, чалавечнасці.

Як адзначае мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн, аб'яднанне «Арцель» пазіцыянуе асаблівую культуру, у якой няма месца прымітыву: мастакі імкнуцца вярнуць гледачу паўнавартасны жывапіс, які б з захапленнем успрыняла чалавечая душа. Да прыкладу, на выстаўцы можна назіраць шмат філасофскіх сюжэтаў, дзе галоўныя героі — людзі. Гэта важны момант: на прыкладзе іншага чалавека нам лягчэй успрымаць сітуацыю. Так, жывыя палотны Валянціна Губарава, напісаныя ў іранічнай манеры, дэманструюць сітуацыю нестабільных адносін мужчыны і жанчыны. Мастачка Наталля Іванова робіць адсылку да казак, дзе ўзаемадзейнічаюць людзі і жывёлы: якое шчасце ад іх суіснавання ў свеце! Мастакі імкнуцца вывесці чалавека на дыялог — праз палотны і нават праз прамоўленае слова.

— Чаму на выстаўках апошнім часам усё часцей надаецца ўвага філасофскаму слову? Напэўна, таму, што мы жывём у эпоху, калі мастацтва перастала ўспрымацца проста як карціна, як гэта было ў ранейшыя часы, — патлумачыла мастацтвазнаўца Наталля Шаранговіч.



Васіль Касцючэнка «Цукерка», 2016 г.

— Цяпер чалавек у творчасці спрабуе знайсці глабальную ідэю. Свет становіцца больш складаным, таму проста паказаць яго прыгажосць — ужо мала. Вядома, гэта было прымальным для мастакоў васямнаццатага, дзевятнаццатага стагоддзя: партрэт прыгожай жанчыны, гарманічны нацюрморт. Класічныя творы, якія бачым у лепшых музеях свету, мы можам успрыняць, зразумець, нават адчуць, але не атрымліваецца пранікнуць у іх глыбока. Мы проста ўспрымаем эстэтыку мастацкай працы: эстэтыку колераў, пабудову кампазіцыі. А сучаснае мастацтва трэба рабіць разнастайным, бо існуе меркаванне, што мастацтва сёння — гэта ўсё, што мы бачым вакол. Для беларускага мастацтва ў наш час характэрна паказваць не толькі канцэптуальную творчасць, але ў тым ліку і дэманстраваць добрую школу айчынных мастакоў. У краіне ёсць шмат дасведчаных таленавітых майстроў, якія жыццё прысвяцілі творчасці. Для такіх аўтараў характэрна не любаванне навакольнымі пейзажамі, а жаданне растлумачыць, што адбываецца навокал. Мы жывём у складаную эпоху, нагодай для філасофскіх разважанняў можа стаць усё, што заўгодна, нават чарга ў краме. Таму злучэнне літаратуры і мастацтва вельмі ўдалае і вытлумачальнае: мастак разумее, што не заўсёды яго праца для звычайнага гледача можа быць зразумелая. І ў гэтым выпадку літаратура дапамагае растлумачыць, сфармуляваць сэнс працы, дапамагчы чалавеку разабрацца ва ўнутраным свеце аўтара.

Мастакі лічаць: калі ў іх атрымаецца хоць у адным дарослым чалавеку выклікаць пачуццё радасці і дабрыні, значыць, атрымалася здзейсніць задуму, якая прапісана і абгрунтавана ў кнізе Рыгора Несцерава.

**Ідзём на імёны:**

**У экспазіцыі, акрамя твораў Рыгора Несцерава, прадстаўленыя работы Мацвея Басава, Уладзіміра Ганчарука, Валянціна Губарава, Аляксандра Забаўчыка, Наталлі Івановай, Рыгора Іванова, Васіля Касцючэнкі, Сяргея Малішэўскага, Аляксея Несцерава, Сяргея Пісарэнкі, Сяргея Рымашэўскага, Алены Шлегель, Аляксандра Шыбнёва.**

**Вікторыя АСКЕРА**

# АКНО Ў ПАРЫЖ

## Беларусы атрымалі пастаянны доступ да карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка

Белгазпрамбанк пачаў набываць каштоўныя для нашай краіны мастацкія творы ў карпаратыўную калекцыю толькі ў 2011 годзе, але ўжо паспеў зладзіць 12 маштабных мастацкіх выставак у Мінску, Гомелі, Віцебску, Брэсце, Гродне, Рызе, Вільнюсе і Парыжы. Дасюль не хапала толькі паўнавартаснай пляцоўкі для пастаяннай экспазіцыі, якая нарэшце з'явілася: у мінскім Палацы мастацтваў адкрылася галерэя праекта «Арт-Беларусь». Сярод аўтараў карцін, што экспануюцца, — вядомыя ва ўсім свеце мастакі Марк Шагал, Хаім Суцін, Леон Бакст, Восіп Цадкін, Валенцій Ванькові́ч, Міхаіл Кікоін, Фердынанд Рушчыц ды іншыя.



Хаім Суцін «Ева», 1928 г.

Мэта выстаўкі — не толькі нагадаць, што ў гісторыі беларускага жывапісу ёсць надзвычай гучныя імёны, якімі варта ганарыцца, але і прадэманстраваць значныя працы суайчыннікаў. Раней усім, хто жадаў пазнаёміцца з творами выбітных беларусаў, даводзілася ехаць у карцінныя галерэі Масквы, Вільнюса, Берліна і нават Парыжа. Дзякуючы рэалізацыі нацыянальнага гісторыка-культуралагічнага праекта «Арт-Беларусь», які імкнуўся вярнуць творы беларускіх прадстаўнікоў Парыжскай школы на радзіму іх стваральнікаў, зараз Парыжская школа жывапісу паўстае перад гледачом наўпрост у цэнтры Мінска — трэба толькі даехаць да станцыі метро «Плошча Перамогі» і зайсці ў левае крыло Палаца мастацтваў.

Паводле куратара карпаратыўнай калекцыі банка Аляксандра Зіменкі, сёння ў калекцыі больш за 110 твораў мастацтва, але на выстаўцы можна ўбачыць прыкладна палову экспанатаў. Экспазіцыю складаюць работы мастакоў не толькі пачатку XX стагоддзя: з цягам часу канцэпцыя карпаратыўнай калекцыі пашырылася, каб ахапіць усе асноўныя этапы развіцця культуры Беларусі. У галерэі Палаца мастацтваў апынуліся не толькі творы жывапісу, але і графіка, скульптура. Тут асабліва каштоўныя друкаваныя рарытэты: «Малая падарожная кніжка» Францыска Скарыны (1522 г.) і «Жазло праўлення» Сімяона Полацкага (1667 г.).

Аўдыторыя, якую разлічвае прыцягнуць да сябе галерэя, — не толькі мастацтвазнаўцы ды аматары жывапісу. Арганізатары праекта вырашылі зрабіць акцэнт на працы з моладдзю, якую цяжка спакусіць музеямі і выстаўкамі. Імёны знакамітых мастакоў, чые карціны запатрабаваныя ва ўсім свеце, — не адзінае, чым імкнуцца заахвоціць першых наведвальнікаў. Іх чакае бясплатны *wi-fi* і незвычайны інтэрактыў: гледачам прапануюць уздзейнічаць на напаўненне экспазіцыі праз… сэлфі. Галерэя плануе пакідаць на сценах тыя карціны, што збяруць найбольшую колькасць фотаздымкаў і каментароў у інтэрнэт-прасторы, а найменш папулярныя — паступова мяняць на працы з непублічнай часткі калекцыі.

Тых, хто не любіць фатаграфавацца, выстаўка можа зачапіць насычанай адукацыйнай праграмай. Палац мастацтваў стане пляцоўкай для арганізацыі самых розных культурных праектаў: тэматычных майстар-класаў, прагляду кінафільмаў, лекцый і дыскусій. Плануюцца заняткі для дзяцей і бацькоў, арыентаваныя на вывучэнне сучаснага мастацтва. Цікавы момант — уключанасць тэхналогій у выставачную прастору: для атрымання дадатковай інфармацыі галерэя змяшчае QR-коды пад карцінамі, а таксама прадастаўляе 3D-шлемы для экскурсіі па віртуальнай кніжнай майстэрні Францыска Скарыны.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## Уладзімір КАНДРУСЕВІЧ:

# «У жыцці наступіў такі перыяд, калі працаваць трэба не дзеля грошай»

**Беларускі кампазітар Уладзімір Кандрусевіч сёлета стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі 2016 года за значныя дасягненні ў галіне тэатральнага і музычнага мастацтва. За плячыма кампазітара вялікі досвед: ён стварыў музыку да 32 кінафільмаў і больш як да 200 спектакляў у Беларусі і за яе межамі. З творчасцю Уладзіміра Кандрусевіча можна пазнаёміцца на вядучых тэатральных пляцоўках краіны — у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, Беларускім дзяржаўным музычным тэатры, Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Максіма Горькага ды іншых. Пра зацікаўленасць у новых праектах, пошукі якаснага лібрэта і самыя значныя свае тэатральныя работы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі распавёў карэспандэнту «ЛіМа».**

**— Каб нечага дасягнуць, трэба прайсці праз пэўныя жыццёвыя выпрабаванні. Як загартоўвалася ваша творчая індывідуальнасць?**

— Калі я толькі пачынаў займацца музыкай на малой радзіме, у Гродне, у нашага гурта знайшлося шмат прыхільнікаў: для іх было шчасцем дапамагчы з апаратурай, паднесці калонку ці інструменты. Гродна — невялікі горад, і натоўп, які збіраўся на нашыя выступы, абуджаў інтарэс. Аднойчы гуртом зацікавіўся КДБ, і да мяне дамоў прыйшоў незнаёмы чалавек. Размаўляў з бацькамі, агледзеў мой пакой. Пасля ён з'явіўся ў музычным вучылішчы, а ў выніку мяне выклікалі ў камітэт. Распытвалі, хто я, што ў мяне за кампанія, што слухаем, пра што спяваем, адкуль бяром музыку...

Але самая цікавая гісторыя звязаная з перыядам навучання ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага (зараз БДАМ). Тады гаркам камсамола вырашыў заняцца выхаваннем моладзі. Пры гаркаме арганізавалі клуб, куды ўвайшлі найбольш актыўныя і аўтарытэтныя студэнты з кожнага ВНУ. Кажуць нам: «Прапануйце: чым можна прыцягнуць моладзь?» Я параіў зрабіць музычны фестываль, і нечакана ўсе пагадзіліся. Два дні выступалі ансамблі з розных інстытутаў. Шчыра кажучы, атрымалася зусім нецікава, але народу ўсё адно было бітком — не прайсці. І вось на другі дзень праграмы я вырашыў ісці са сваёй камандай «Пане-браце» на сцэну па-за конкурсам. На фоне спеваў у стылі «Не надо печалиться, вся жизнь впереди...» загучалі акорды амерыканскага рок-гурта *«Creedence Clearwater Revival»*, і ў зале літаральна адбыўся выбух! На жаль, мы нават не даспявалі: мужчына з ЦК партыі выбег на сцэну і апусціў заслону. На наступны дзень мяне выклікаў рэктар кансерваторыі. Падчас роспытаў пра дзейнасць «Пане-браце» ён даведаўся, што мы выконваем песні ў Доме культуры на першым цагляным заводзе (у народзе тое месца называлі «Біржа»). Студэнтам забаранялася працаваць адначасова з вучобай, але мы імкнуліся зарабляць. Нягледзячы на павышаную стыпендыю, грошай не хапала, бо ад дапамогі бацькоў я адмовіўся: жадаў усяго дамагчыся сам. Астатніх удзельнікаў гурта не выдаў, і мяне, як завадатара, выключылі з кансерваторыі. Здарылася неверагоднае: на маю абарону паўсталі выкладчыкі і студэнты! Каб пазбегнуць канфлікту, аднавілі праз 2 тыдні, але выконваць музыку са сваім гуртом забаранілі.

**— Ці адбілася тая сітуацыя на вашым далейшым навучанні ў кансерваторыі?**

— Да мяне працягвалі добра ставіцца, нават размеркавалі не па месцы жыхарства, як астатніх студэнтаў, а пакінулі ў Мінску. Лета я працаваў у Вялікім тэатры оперы і балета. У тэатры было сумна: трэба сядзець і паўтараць па 5 — 10 разоў аднолькавыя такты, пакуль балетная трупа вучыць новы нумар. Увосень пайшоў служыць пад Дзяржынск. Начальства там пра мяне чула, таму дазволілі стварыць новы гурт. Мы выступалі ў суботу і нядзелю, а прыбытак ад канцэртаў ішоў у вайсковую частку. Але з'явілася магчымасць вырвацца з вайсковага побыту! Казалі, што трэба рэпеціраваць, прыязджалі ў горад з раніцы, куплялі сухое балгарскае віно… Гэта было свята. Пасля арміі я вырашыў не вяртацца ў тэатр піяністам, а працягнуць навучанне ў кансерваторыі на кампазітарскім аддзяленні.

**— Як склалася, што ад захаплення рок-музыкай вы перайшлі да тэатральнага рэпертуару?**

— Тлумачэнне простае: у кожнага ўзросту свае інтарэсы. Калі быў юнаком, хацелася быць у цэнтры ўвагі, падабацца дзяўчатам. Але многія выканаўцы дасюль заўважаюць, што ў маёй творчасці захаваўся дух бунтарства. Нават у аркестры Музычнага тэатра я заклаў у партытуру два сінтэзатары, гітару ды бас-гітару: музыка гучыць сучасна, адчуваюцца элементы року, цікавыя гукавыя плямы. Галоўнае — памятаць, што тыя элементы павінны не выбівацца, а арганічна спалучацца з музычнай палітрай твора.



**— Вы былі адным з любімых вучняў народнага артыста БССР Яўгена Глебава. Цяжка было адшукаць шлях да сэрца маэстра?**

— У нас з Яўгенам Аляксандравічам склаліся вельмі добрыя адносіны, мы адразу зразумелі адзін аднаго. Першы раз я выпусціўся з кансерваторыі як піяніст, таму прафесійна валодаў інструментам. Не ўсе вучні Глебава маглі выконваць свае творы самастойна: часта яны прыносілі ноты і прасілі мяне сесці за фартэпіяна. Як вынік — кансерваторыю скончыў экстэрнам, потым былі два гады аспірантуры… Галоўнае дасягненне гэтага перыяду — тое, што я пачаў афіцыйна падпрацоўваць. Паколькі я добра імправізаваў, мяне запрашалі на запісы музыкі для спектакляў, кіно. Тады паглыбіўся ў творчую атмасферу, пазнаёміўся з рэжысёрамі і ў выніку пачаў працаваць як кампазітар.

**— Выйсці да шырокай аўдыторыі кампазітарам-пачаткоўцам было прасцей у часы, калі вы пачыналі займацца музыкай, ці зараз?**

— Здаецца, раней было прасцей: кампазітараў ды ўвогуле артыстаў працавала менш, канкурэнцыя адчувалася не так востра, як зараз. У любым творчым асяроддзі вельмі насцярожана ставяцца да з'яўлення моладзі. Некалькі год я пісаў песні для выхаванцаў Прадзюсарскага цэнтра «Спамаш». У маладых выканаўцаў былі значныя дасягненні, прэстыжныя ўзнагароды на міжнародных конкурсах, але лёгка нічога не давалася. Калі мне захацелася чагосьці больш цікавага, напісаў мюзікл «Байкер» для творчага складу нашага цэнтра. «Байкер» меў перспектыву: мы аб'ездзілі з ім практычна ўсе вялікія беларускія гарады. Мюзікл нават запрасілі на вялікі тур па Украіне, але з-за ўсеагульнага крызісу 2008 года паездка сарвалася. Пасля пастаноўкі «Байкера» я палічыў, што мая місія ў «Спамашы» выканана, і пайшоў далей: усё жыццё працаваў як вольны мастак, на афіцыйных пасадах доўга не затрымліваўся.

**— Хадзілі чуткі, што «Байкер» мог пайсці ў рэпертуар аднаго са сталічных тэатраў...**

— Свабодная манера спеваў у нашых тэатрах не надта практыкуецца, а «Байкер» арыентаваўся на маладзевы стыль выканання: трэба было тут пакрычаць, там пашаптаць, ярка выказаць эмоцыі. Да таго ж я сам абіраў артыстаў на ролі, таму мюзікл разлічваў на пэўныя галасы. У прыватнасці, ролю Байкера выконваў Іван Вабішчэвіч, цяпер вядомы як Дзядзька Ваня (першымі талент Вабішчэвіча заўважылі ў Прадзюсарскім цэнтры «Спамаш», а ўжо потым яго запрыкмеціла Пугачова). Нягледзячы на тое, што «Байкер» ішоў на беларускай сцэне толькі год, намаганні, пакладзеныя на яго стварэнне, акупіліся. Мы працавалі на самых вялікіх пляцоўках, спектакль здымала тэлебачанне, а фінальным акордам беларускага тура стаў выступ у Віцебску на вялікай сцэне, дзе штогод ладзіцца «Славянскі базар».

**— Мюзікл «Шклянка вады», балет «Мефіста» вярнуліся ў тэатральны рэпертуар пасля перапынку. Чаму адны вашыя творы вяртаюцца на сцэну, а іншыя — не?**

— Мюзікл «Шклянка вады» выйшаў з рэпертуару Музычнага тэатра з-за таго, што прыйшлі ў непрыдатнасць дэкарацыі. Дзеля спектакля стварылі адмысловы пандус з люстранымі лістамі, але з цягам часу яны знасіліся. Калі сабралі сродкі на замену дэкарацый, мюзікл адразу з'явіўся на сцэне. Спектакль «Шклянка вады» паспяхова ідзе ўжо 22 гады, нядаўна выязджаў на гастролі ў Калінінград. Я сачу за жыццём сваіх пастановак, заўсёды наведваю генеральныя рэпетыцыі або прагоны. Дасюль кожны раз прыходжу на «Соф'ю Гальшанскую», а пасля спектакля гутару з выканаўцамі, калі з'яўляюцца пытанні ці заўвагі. З Музычным тэатрам у нас даўно ўсталяваліся трывалыя сувязі і вельмі добрыя адносіны.

**— «Соф'ю Гальшанскую» крытыкі ў адзін голас называюць першым беларускім нацыянальным мюзіклам. На чым у працы трэба зрабіць акцэнт, каб спектакль атрымаўся менавіта нацыянальным?**

— Безумоўна, у першую чаргу нацыянальным павінен быць сюжэт. Да «Соф'і Гальшанскай» ставілі аперэты накшталт «Несцеркі», але сур'ёзнай працы над нацыянальнымі тэкстамі не было. У цэнтры мюзікла павінна быць важная гістарычная фігура альбо цікавая гісторыя менавіта з мінуўшчыны беларускага народа, і калі праца будзе годнай ва ўсіх адносінах, спектаклем зацікавяцца нават у іншых краінах, што заўважна падчас гастроляў. Героя для спектакля можна знайсці паўсюль. Так, ідэя ўвасобіць на сцэне жыццё беларускай княжны прыйшла да мяне яшчэ ў 2006 годзе, калі Нацыянальны банк Беларусі выпусціў юбілейную манету, прысвечаную 400-годдзю з дня нараджэння Соф'і Гальшанскай. Падрыхтоўка мюзікла цягнулася да 2013 года, бо ў пошуках добрага лібрэтыста, які б напісаў цікавую гісторыю для Музычнага тэатра, я змяніў шэсць чалавек. Вядома, людзі крыўдзіліся, але што рабіць? У рэшце рэшт, адказнасць за мюзікл толькі мая. Пасля доўгіх пошукаў пашанцавала: пазнаёміўся на кінастудыі з рэжысёрам Аленай Туравай. Яна пісала сцэнары для сваіх фільмаў і пагадзілася ўзяцца за лібрэта. Сёмы варыянт лібрэта атрымаўся надзвычай удалы, і гледачы ўбачылі прэм'еру «Соф'і Гальшанскай».

**— Ці ёсць жаданне працаваць у нацыянальным кірунку і надалей?**

— Я наогул усё жыццё працую і з задавальненнем працягнуў бы распрацоўку беларускай тэмы, але ёсць праблема: мне патрэбен лібрэтыст. Я гатовы да любога варыянта, гістарычнага альбо сучаснага, неабавязкова нават працаваць з канкрэтным персанажам, як Соф'я Гальшанская. Асноўнае патрабаванне — добрае лібрэта, цікавасць да якога нараджаецца ў размовах з лібрэтыстам. Зараз не атрымліваецца знайсці нешта выбітнае. Прапановы ёсць, у тым ліку і ад Музычнага тэатра, але пакуль не адчую, што лібрэта мае, згоды даць не змагу. У жыцці наступіў такі перыяд, калі працаваць трэба не дзеля грошай, а каб зрабіць асаблівы твор, які возьме за душу.

**— На пачатку красавіка вас адзначылі Дзяржаўнай прэміяй «За значныя дасягненні ў галіне тэатральнага і музычнага мастацтва, стварэнне музыкі да балета "Мефіста", мюзіклаў "Шклянка вады", "Джулія", "Соф'я Гальшанская", "Байкер"». Як лічыце, названыя творы — лепшыя вынікі вашай працы?**

— Гэта лепшыя з твораў, падрыхтаваных для рэпертуару Музычнага тэатра. Да спектакля падыход вельмі просты: глядач плаціць рублём. Калі аўдыторыя не збіраецца, а ты кажаш, што паставіў шэдэўральны твор, нешта ў гэтай сітуацыі атрымліваецца не так. Увогуле, за доўгі час супрацоўніцтва з тэатрамі мне пашчасціла працаваць з вельмі цікавымі людзьмі. Кожны з рэжысёраў ствараў надзвычай добрыя спектаклі. «Блакітная ружа» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы і «Палачанка» ў Тэатры юнага гледача Андрэя Андросіка, «Клеменс» у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа, які ажыццявіў самы малады галоўны рэжысёр СССР Валерый Мазынскі... Адзін з маіх спектакляў, «Рэвізор», крэатыўна паставіў Валерый Раеўскі. Падчас спектакля артысты прыхіналіся да вялікіх люстэрак, і ў апошнім акце люстэркі станавіліся заляпанымі, бруднымі. Пераход ад першапачатковай чысціні да наўмыснага бруду ствараў незразумелы, фантасмагарычны эфект. Быў перыяд, калі я афармляў усе спектаклі ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек, дзе шмат кантактаваў з рэжысёрам Аляксеем Ляляўскім, у Вялікім тэатры оперы і балета працаваў з Валянцінам Елізар'евым. Знаёмства і супрацоўніцтва з таленавітымі творцамі нашага часу — таксама значнае дасягненне і вялікая жыццёвая ўдача.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# РЭЖЫСУРА ЖЫЦЦЯ

## Малады кінематаграфіст пра складнікі добрага фільма

Жаданне — заўсёды самы важны пункт у плане, датычна да ўсяго. У кіно ж жаданне наогул вышэйшае за ўсё — з ім можна звярнуць горы. У Беларусі гарыстай мясцовасці вельмі мала, але жаданні ёсць, асабліва кінематаграфічныя. Гэтаму доказ тая моладзь, якая пакуль яшчэ не паспела гучна заявіць пра сябе на ўвесь свет, але некаторыя вяршыні ўсё ж скарыла. Накшталт Ягора Бякава, які, будучы студэнтам, зняў некалькі кароткаметражных фільмаў і перамагаў на кінафестывалях дзякуючы ўласнаму жаданню, а сёння працуе ў Белтэлерадыёкампаніі.

**— Сёлета ваша стужка «Паспець пачуць цішыню» перамагла на конкурсе нацыянальных кінашкол на «Лістападзе». Адкуль з'явіўся такі цікавы герой?**

— Я атрымаў заданне ў акадэміі — зняць фільм-партрэт. І маім героем павінен быў стаць зусім іншы чалавек — хлопчык-вундэркінд, а пра Дзмітрыя Воінава я выпадкова пачуў на працы на тэлебачанні. Мне падалася цікавай яго гісторыя — проста кінуць усё і паехаць на хутар. Гэтае кіно было спантанным: я паставіў мэту зрабіць штосьці нестандартнае асабіста для сябе, хоць і выкарыстоўваў некаторыя заштампаваныя прыёмы, але там такая неверагодная прырода — яе неабходна было паказаць! Ды і асоба самога героя вельмі цікавая: ён змяніў паляванне на назіранне за жывёламі, цывілізацыю — на адчужэнне каля Заходняй Дзвіны, ён вядзе блог! Для мяне гэтыя здымкі былі сапраўднай барацьбой з сабой — хацелася ў горад, але Воінаву не хочацца гэтага, ён знайшоў сваё месца, і гэта ўражвае.

— Я ні хвіліны не шкадаваў пра выбар прафесіі. Калі паступаў у акадэмію, канечне, як і любы школьнік, уяўляў працу рэжысёра крыху іншай, бо пра гэта вельмі мала пішуць і гавораць. Не магу ўзгадаць той момант, калі зразумеў, што хачу быць рэжысёрам. Яшчэ ў школе пісаў сцэнарыі для святаў, але ніколі не ставіўся да гэтага сур'ёзна. Выразна памятаю момант, як у 10 класе натрапіў на сайт Акадэміі мастацтваў і ўбачыў сваю спецыяльнасць. Тады я сачыў за працай рэжысёраў тэлебачання ва Украіне, менавіта адтуль і даведаўся пра рэжысуру і зразумеў, што гэта менавіта тое, што трэба. Канечне, мае чаканні з рэальнасцю не супалі, але я нават рады: хваляваўся, што гэта будзе руцінная праца, бо тэлебачанне — канвеер, але я кожны дзень шукаю новыя рашэнні і разумею, што мая праца — гэта творчасць.

**— Рэжысура кіно і тэлебачання адрозніваецца. Што больш складанае?**

— Думаю, больш цяжка быць рэжысёрам кіно. Рэжысёр тэлебачання стварае тут і зараз, гэта больш апаратыўная праца, а вось калі ты здымаеш кіно, то вынік бачыш толькі праз некалькі месяцаў, нават гадоў. Трэба разумець, што рэжысура наогул складаная, бо ці ў кіно, ці на тэлебачанні ёсць дэдлайны, выдаткаваныя сродкі, здымачная група, трэба правільна ўсім гэтым распараджацца. Але ў мяне такіх праблем амаль не здаралася, бо свае фільмы я здымаў за ўласныя грошы, шукаў акцёраў, якія б пагаджаліся здымацца бясплатна. У кіно ты сам за сябе — за тваёй спінай няма брэнду, а ёсць толькі ўласная ідэя і яе ўвасабленне.

Калі здымаеш кіно без грошай, асноўны фактар — чалавечы: рэжысёр тэлефануе акцёрам, кажа ім, што гэта дзеля мастацтва, тое ж самае — і з апаратарамі. Многія з іх гатовыя дапамагчы і пайсці за ідэяй рэжысёра. Мне пакуль шанцуе: у фільме «Апошні патрон» ролі выконвалі мой выкладчык Вячаслаў Кісялёў, актрыса Вольга Абрыкосава, якую я наогул не ведаў і проста спытаў дапамогі. Думаю, у кінематографе вельмі важную ролю выконваюць знаёмствы — менавіта так у малабюджэтным кіно і працуюць.

**— Зараз вы працуеце над сцэнарыем новага фільма. Што гэта будзе?**

— У мяне ёсць ідэя зняць яшчэ адзін кароткаметражны фільм — я яшчэ не дарос да поўнага метра, мне няма чаго сказаць на такую колькасць часу. Не паверыце, але гэта будзе фільм пра вайну. Так, у нас хапае стужак пра вайну, але мы ўмеем здымаць на гэтую тэму. Калі ў Кыргызстане могуць здымаць на тэму бацькоў і дзяцей (а там у год здымаецца па 3-4 карціны на гэтую тэму), то чаму мы не можам здымаць пра вайну? Мяне заўжды цікавіла Вялікая Айчынная, спадзяюся, што да восені я спраўджу гэтую мару, бо сцэнарый ужо гатовы. Самае складанае для мяне — запусціцца, калі ўжо ёсць каманда, сцэнарый і застаецца толькі ісці да мэты. Але калі рэжысёр сядзіць у кінатэатры, глядзіць сваё кіно і бачыць, як глядач рэагуе на фільм і перажывае менавіта тыя эмоцыі, якія б хацелася рэжысёру, гэта тое, дзеля чаго варта здымаць.

**— Самы важны складнік паспяховага фільма — гэта…**

— Добры сцэнарый! У Акадэміі мастацтваў быў толькі адзін выпуск сцэнарыстаў, здаецца, яшчэ адзін быў ва Універсітэце культуры. Таму сцэнарыстаў у нас мала, вось рэжысёры самі і пішуць сцэнарыі. Другі складнік — ініцыятыва, шчырасць. Калі рэжысёр прапускае гісторыю праз сябе, яна атрымліваецца добрай. Павінна быць каманда, якая пойдзе за ідэяй і будзе працаваць «за ежу», але і ўдзячны глядач — таксама складнік. Бо сёння на нашым кіно стаіць таўро, што беларускае — гэта дрэнна і няякасна. Сэнс у тым, што калі-небудзь беларускае кіно атрымае сусветную ўзнагароду ці трапіць у шорт-ліст Канскага кінафестывалю, толькі тады пра гэтую стужку даведаецца глядач і зацікавіцца ёй. На жаль, сітуацыя менавіта такая: погляд на беларускае кіно вельмі аднабокі. Беларускія гледачы вельмі распешчаныя, таму да айчыннага кіно заахвоціць будзе цяжка, нягледзячы на тое, які ў фільма бюджэт, наколькі добрая там здымачная група. Нашаму кіно не хапае рэкламы, менавіта таму публіка аддасць перавагу недарэчнай амерыканскай камедыі, чым цікаваму і разумнаму беларускаму фільму. Думаю, нават нашыя студэнцкія працы нецікавыя шырокаму гледачу, а толькі той публіцы, якая цікавіцца беларускай культурай.



*Кадр з фільма «Паспець пачуць цішыню» (рэж. Я. Бякаў).*

**— Дакументальнае кіно здымаць больш цяжка?**

— Цяжкасці ёсць у здымках і дакументальнага, і ігравога кіно. Калі я здымаў «Паспець пачуць цішыню», думаў, што гэта не мае, што здыму адну працу і на гэтым скончу. Але мне спадабалася: сачыць за чалавекам, за яго паводзінамі, пасля манціраваць, шукаючы трапныя кадры. Гэта сапраўды чароўна — калі ты разумееш, што гісторыя складаецца менавіта падчас мантажу. У ігравым кіно гісторыя гатовая, «зманціраваная» яшчэ перад здымкамі, а ў дакументалістыцы ты спачатку павінен прыдумаць рашэнне, а ўжо потым гэта стане гісторыяй. Але на дадзены момант ігравое кіно мне бліжэйшае — тут можна стварыць свой сюжэт, а дакументалістыка не ўнясе скажэнняў.

**— Галіна Адамовіч выказала крытыку ў адрас фільма «Паспець пачуць цішыню». Як ставіцеся да крытыкі наогул?**

— Крытыка — суб'ектыўная рэч. Напрыклад, маё кіно спадабалася адборшчыцы фільмаў з Канады, але не выклікала такіх эмоцый у прадстаўнікоў Беларусі. Магчыма, таму што для замежнікаў гэта свайго роду дзіва. Але асабліва спадабалася стужка на Усходзе, хоць я і не разлічваў на такі інтарэс. Можа, бачаць у фільме сябе. Хоць кажуць, што гледачы любяць дзіўнае кіно. Наконт крытыкі: калі яна аргументаваная, я, канечне, прыслухаюся. Напрыклад, крытыка Галіны Адамовіч для мяне была важнай: я бачыў яе фільмы, яна для мяне аўтарытэт. Але больш каштоўнае меркаванне гледача, хоць і прыемна атрымліваць узнагароды ад знаўцаў. Чаму? Бо ў журы вельмі нагледжаныя людзі, якія будуць параўноўваць маю стужку з іншымі і казаць, што такое ўжо было, а не глядзець яе як нешта асобнае — ад гэтага вельмі крыўдна. Усё ўжо было ў кіно!

**— Вы вучыцеся на спецыяльнасці «Рэжысура кіно і тэлебачання» апошні год, працуеце на тэлеканале «Беларусь 3». Калі азірнуцца назад, выбралі б гэтую ж прафесію?**

**— Што да бюджэту... Дзе студэнты Акадэміі знаходзяць грошы на фільмы?**

— У акадэміі вылучаюцца гранты на конкурснай аснове, але, па вялікім рахунку, студэнты здымаюць стужкі за ўласныя сродкі. Мае фільмы знятыя на стыпендыі, грошы, якія атрымліваў на падпрацоўках. Бюджэты беларускіх фільмаў могуць быць вельмі эластычнымі. Мой сябра сабраў грошы (1000 бел. руб.) на здымкі стужкі з дапамогай краўдфандынгу, але я не вельмі веру ў тое, што ў нашых рэаліях гэта будзе кожны раз спрацоўваць: ёсць шмат выпадкаў, калі нават дасведчаныя рэжысёры не збіралі патрэбных сродкаў. Таму я выдаткоўваю грошы з уласных кішэняў, так нават прасцей: ты нікому нічым не абавязаны, і калі стужка не атрымалася, адказнасць будзе цалкам тваёй. Пошук грошай натуральны для кінематаграфіста. Але для многіх усе скаргі на тое, што няма грошаў, — проста адгаворкі. Я на ўласным досведзе ўпэўніўся, што здымаць кіно можна і без сродкаў, галоўнае — жаданне.

### Вучыцца здымаць кіно можна:

**— І ў самых студэнтаў — у той жа Нэлы Васілеўскай, у студэнтаў з іншых краін. Я бачу ў іх працах свежы погляд, у іх ёсць, чаму павучыцца — пабудове кадра, дыялогаў, ідэям. Калі казаць пра рэжысёраў вядомых, то, як і многія студэнты акадэміі, люблю стужкі Таркоўскага, хоць і не заўсёды яны мне зразумелыя, але вельмі глыбокія. Мне падабаюцца фільмы Андрэя Канчалоўскага: з апошняга — «Рай», там выдатныя дыялогі, вобразы, рашэнні. З маладых рэжысёраў я люблю Івана Тўярдоўскага: двойчы паглядзеў «Заалогію», тройчы — «Клас карэкцыі». Не магу не ўзгадаць Параджанава і Турава. Дарэчы, Турава называюць «беларускім Параджанавым», а фільм «Людзі на балоце» — беларускія «Цені забытых продкаў». Мне вельмі блізкія некаторыя стужкі Сяргея Лазніцы, Галіны Адамовіч, Ірыны Волах.**

**— У многіх краінах нацыянальны кінематограф вельмі папулярны. Ці можна спадзявацца на такое ў Беларусі?**

— У Расіі здымаецца 100 поўнаметражных фільмаў у год, у Кыргызстане — 50. А тэрыторыя апошняй краіны нават меншая за нашу. Там шмат магчымасцей для стажыровак, здымак. І самае дзіўнае, што іх кіно любяць і глядзяць. У многіх усходніх краінах сапраўдны культ нацыянальнага, і гэта выдатна. Магчыма, ёсць яшчэ залежнасць ад прадзюсіравання: у Беларусі гэта не вельмі развітая сфера, толькі ў гэтым годзе будзе першы выпуск прадзюсараў. Думаю, з часам у нашым кіно ўсё палепшыцца, а зараз у нас шмат апраўданняў: няма грошай, ідэй. Але варта ўзгадаць сітуацыю ў Казахстане, у мяне там вучацца сябры. Там студэнтам не вылучаюць грошы, і нестудэнтам: таксама. Але там за перамогу ў фестывалях аплачваюць абсталяванне на здымкі наступнага фільма. У нас пакуль што такія падыходы не вельмі распаўсюджаныя. Хочацца, каб кінематаграфістаў падтрымлівалі.

**— Каму ў першую чаргу павінна падабацца кіно: рэжысёру ці гледачу?**

— Кіно не павінна падабацца рэжысёру наогул! Мне сказала пра гэта на першым курсе Маргарыта Касымава: рэжысёру, якому падабаецца яго праца, у прафесіі больш няма чаго рабіць. Заўсёды, нават калі фільм выпакутаваны, зроблены ідэальна, у ім будзе тое, што рэжысёру не спадабаецца. Мне хочацца думаць, што я ствараю свае стужкі для гледача, а ўжо пасля і для сябе. Зразумела, калі я ўздымаю ў фільме нейкую праблему, то распавядаю пра асабістае, што хвалюе менавіта мяне, але раблю гэта для аўдыторыі. Быць рэжысёрам, які здымае фільмы для сябе, не хочацца, бо хутчэй за ўсё такі фільм нікога не зацікавіць і будзе ляжаць на паліцы. Калі нават табе не падабаецца ўласны фільм, ты яго любіш. Для мяне гэта як дзіця: можа, дрэннае, можа, супярэчлівае, але выпакутаванае.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# РЭКАНСТРУКЦЫЯ ПАМЯЦІ




Пра беларускую літаратуру 1920 — 1930-х гадоў часам кажуць, што гэта «вада, якая пайшла ў пясок»: значныя і бясспрэчныя здабыткі, дасягненні як асобных творцаў, так і некаторых мастацкіх супольнасцяў маглі б закласці грунтоўны фундамент для плённага развіцця нацыянальнай культуры — ды так не сталася. Прынамсі, у той ступені, у якой магло б стацца. Перарваную дзесяцігоддзямі замоўчвання традыцыю аднавіць не так проста, часта — нерэальна. Аднак нам бясспрэчна «засталася спадчына», даследчыкі якой часам пачуваюцца першаадкрывальнікамі.

У 2016 годзе пабачыла свет беларускамоўная версія кнігі доктара філалагічных навук, дацэнта Варшаўскага ўніверсітэта Андрэя Масквіна «Беларускі тэатр 1920 — 1930-х: адабраная памяць». Пераклад з польскай мовы ажыццёўлены Аленай Пятровіч і Марыяй Пушкінай. Укладальніца Т. Арцімовіч адзначыла, што кніга «для нашага кантэксту ўнікальная. Гэта першае выданне, у якім не проста здзейсненая спроба рэканструкцыі беларускага тэатра перыяду ягонага прафесійнага станаўлення. У кнізе ўпершыню паўстае шмат імёнаў і падзей, якія ў савецкі перыяд былі выкраслены з нашай культурнай памяці».

Сапраўды, даследаванне А. Масквіна ўражвае грунтоўнасцю, надзвычай багатым фактычным матэрыялам (адшуканыя ў архівах рэжысёрскія экзэмпляры тэкстаў, карэспандэнцыі і дзённікавыя запісы, крытычныя водгукі ў прэсе і фотадакументы, успаміны) і глыбінёй прапанаванага аналізу станаўлення беларускага нацыянальнага тэатра. У манаграфіі прадстаўленыя дакументы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці, Архіва аддзела тэатральнага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, Гасцёўні Уладзіслава Галубка, а таксама Расійскага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва.

Даследчык меў на мэце «даць нарыс акалічнасцей з'яўлення і дзейнасці трох беларускіх тэатральных калектываў: БДТ-1, БДТ-2 і Тэатральнай трупы Уладзіслава Галубка», якія прадстаўлялі тры асобныя шляхі мастацкіх пошукаў і розныя магчымасці развіцця. Акрамя гэтага, у кнізе прадстаўленыя дэталёвыя рэканструкцыі асобных спектакляў, асобная ўвага надаецца прычынам і ўмовам распаду тэатральных калектываў.

Многім беларускім даследчыкам, якія звяртаюцца да перыяду 1920 — 1930-х гадоў, вельмі цяжка адстаронена пазбыцца да апісання фактаў і іх аналізу, многае ўспрымаецца з заўважнай доляй асабістага спачування і нават болю. Гэта заканамерна, а ў дачыненні да першых манаграфій, прысвечаных «адабранай памяці» (у розных галінах культуры) увогуле непазбежна. Праўда, у апошняе дзесяцігоддзе гэтая тэндэнцыя пераадольваецца. Аднак з гэтага пункту гледжання (пераадолення «нацыянальнага сантыменту») замежны даследчык заўсёды ў больш выгадным становішчы, яму прасцей быць аб'ектыўным. Гэтым таксама вылучаецца кніга А. Масквіна. Хаця і нельга сказаць, што гаворка вядзецца толькі пра адстаронены аналіз фактаў. У дачыненні да найбольш выдатных тэатральных дзеячаў і акцёраў (напрыклад, Уладзіслава Галубка, Еўсцігнея Міровіча, Канстанціна Саннікава) даследчык выкарыстоўвае і іншы прынцып: спрабуе стварыць псіхалагічны партрэт з раскіданых па розных публікацыях і выданнях успамінаў, выпадковых згадак, ліставанняў… Гэта ёсць цудоўным, у пэўным сэнсе нават — мастацкім аздабленнем аб'ёмнага навуковага даследавання, калі чытач мае магчымасць не толькі атрымаць кароткі летапіс жыцця і творчасці (зрэшты, вядомы абазнанаму ў тэме чытачу), але і паспрабаваць уявіць аблічча таго ахвярнага пакалення пакутнікаў-энтузіястаў.

Згодна з увасабленнем аўтарскай ідэі, у кнізе тры раздзелы: «Беларускі першы дзяржаўны тэатр», «Беларускі другі дзяржаўны тэатр», «Тэатральная трупа Уладзіслава Галубка». Аднак аўтар не проста апісваў станаўленне, развіццё і заняпад названых калектываў як нейкага асобнага мастацкага сегмента. Жыццё беларускага тэатра пачыналася значна раней за афіцыйныя даты заснавання, згодна з якімі святкуюцца юбілейныя даты. А. Масквін звяртаўся да вытокаў — Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага, Першага таварыства беларускай драмы і камедыі пад кіраўніцтвам Фларыяна Ждановіча, Беларускага народнага тэатра, Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва, Беларускай студыі ў Маскве… Імпануе, што развіццё і дзейнасць тэатральных калектываў разглядаецца ў шырокім агульнакультурным і сацыяльна-палітычным кантэксце, аналізуецца разбуральны ўплыў палітызацыі культурнай сферы на ўмовы творчай працы. Не абыходзіць увагай даследчык і асабістыя канфлікты паміж рознымі тэатральнымі дзеячамі (напрыклад, паміж дырэктарам і мастацкім кіраўніком БДТ-2 Мікалаем Красінскім і Сурэнам Хачатуравым (Хачатуранам), што таксама мела свой уплыў на фарміраванне, напрыклад, рэпертуарных планаў.



Фота з архіва.

*Сцэна са спектакля паводле п'есы У. Галубка «Суд», 1920 г.*

Вядома, калі гаворка вялася пра спектаклі паводле твораў беларускіх пісьменнікаў, то немагчыма было не звярнуцца да агульных тэндэнцый развіцця тагачаснага літаратурнага руху. Тым больш, пісьменнікі бралі непасрэдны ўдзел у жыцці тэатра не толькі як аўтары сцэнічных твораў, але і як найбольш актыўныя рэцэнзенты. Даследчыкам літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша», безумоўна, будзе цікавая гісторыя пастаноўкі (праца над сцэнарыем і стварэнне ўнікальных дэкарацый — даволі смелых для таго часу) «Апраметнай» Васіля Шашалевіча.

Асабістыя ўмовы жыцця акцёраў і рэжысёраў, іх грамадска-палітычныя і мастацкія пазіцыі, змены ў эканамічнай палітыцы, розгалас у тагачаснай беларускай прэсе, праблемы супрацоўніцтва з кампазітарамі і мастакамі, якія, як правіла, жылі не ў Беларусі, а таксама рускімі і ўкраінскімі драматургамі, тэатральныя і літаратурныя дыскусіі, тэхналагічныя нюансы стварэння дэкарацый і нават агульны ўзровень інтэлектуальнага развіцця і мастацкага густу патэнцыйнай мэтавай аўдыторыі — усё гэта было заўважана і прааналізавана аўтарам манаграфіі.

У выніку стварылася вельмі стракатая (але і цэласная паводле галоўнай задумы) карціна, дзе даследчыкі з розных галін гуманітарнай сферы знойдуць карысную інфармацыю.

**Жана КАПУСТА**

# Псіхалагічны эфект

## Арт-тэрапія ў сцэнічнай прасторы

Вось ужо 22 гады ў Мінску існуе Псіхалагічны тэатр «Лютэя» (Любоў, Тэатр, Я), унікальны і складаны не толькі эстэтычнай прыродай, але і па сутнасці. Яго мэта — не столькі забаўляць, колькі ўздзейнічаць псіхатэрапеўтычна, дапамагаць гледачу справіцца с асаблівай праблемай. Кіруе гэтым тэатрам кандыдат педагагічных навук, псіхолаг Наталля Віктараўна Раманчык, якая валодае талентам не толькі вучонага, але і акцёра і рэжысёра.

Незвычайныя тут і акцёры: розныя па спецыяльнасці (эканамісты, менеджары, псіхолагі, праграмісты ды інш.), альтруісты па натуры, якія шчыра жадаюць дапамагаць. Гэта братэрства ўлюбёных у тэатральнае мастацтва і псіхалогію, энтузіястаў, якія робяць усё сваімі рукамі: шыюць касцюмы, афармляюць сцэну, пішуць музыку, «складаюць спектакль».

Ля вытокаў гэтага тэатра — студэнты факультэта сацыяльнай педагогікі і практычнай псіхалогіі БДПУ імя М. Танка. Аматарскі тэатр быў скіраваны на асобаснае развіццё і прафесійны рост будучых сацыяльных педагогаў і псіхолагаў, якія могуць дапамагаць людзям таксама і сродкамі мастацтва. Тэатральную трупу склалі не толькі прафесіяналы-псіхолагі, якія валодаюць акцёрскім майстэрствам, але і тыя, хто мае ў гэтым патрэбу. Многія з іх у тэатры потым засталіся.

Сцэнічнае памяшканне «Лютэі» камернае: размясціцца тут можа не болей за 30 чалавек, што абумоўлена патрабаваннямі тэрапеўтычнага эфекту. Тут няма сцэны, яна ўмоўная. Пры гэтым як артыст, так і глядач знаходзяцца ў псіхатэрапеўтычным полі, атрымліваючы яго ўздзеянне дзеля таго, каб вырашаць свае асобасныя задачы і псіхалагічныя праблемы. Гульнявое поле спектакля навукова абгрунтаванае, псіхалагічна прадуманае, нават да нюансаў, бо нацэленае на гледача-сутворцу, на яго «пражыванне» таго, што адбываецца. Гледачу тут можна плакаць, гучна выяўляць свае эмоцыі, уключацца ў агульную атмасферу, якая дазваляе «перажыць» псіхалагічна важныя моманты, прайсці праз катарсіс.

Спектаклі ставяцца паводле аўтарскага сцэнарыя, які піша Наталля Віктараўна. Акцёры спачатку самі праходзяць праз трэнінг, выказваюць свой стан і пачуцці не толькі ў гульні, але і ў хатніх заданнях, якія з'яўляюцца часткай спектакля. Прайграныя жыццёвыя моманты адлюстроўваюць стан чалавека (адзіноту, страх, крыўду і інш.), прымушаюць і гледача паглыбіцца ў пэўны стан, глыбока адчуць і ўсвядоміць. У канцы спектакля знікаюць заплаканыя вочы. Ад арт-тэрапіі — свята і ўсмешкі. Але гэта толькі першая частка тэатральнай дзеі. Другая — не менш важная — узаемаабмен поглядамі, самаадчуваннем, думкамі, што таксама дае вынік.

Спектакль-трэнінг «Эльфійская казка», які не так даўно пастаўлены на малой сцэне Тэатра беларускай драматургіі, яскрава сведчыць аб прафесіяналізме артыстаў, мэта якіх — разбудзіць у чалавеку «маленькае дзіця», праявіць любоў да сябе і свету, што вельмі важна для кожнага з нас. Казачны свет, у які паглыбляецца глядач, чароўны: тут і эльфы, і дрэва, што выконвае жаданні, атмасфера любові, якая перадаецца ад артыстаў гледачам. Тут усё накіравана на інтэрактыўную сувязь кожнага «Я» з «Іншым», што гарманізуе душэўны стан. Моцная псіхатэрапія дапамагае гледачу пражыць свае асабістыя крызісныя сітуацыі і вызваліцца ад праблем, якія ён атрымаў у дзяцінстве, па-іншаму паглядзець на сваё ўнутранае дзіця, сваё «Я».

Невыпадкова тэатр называецца «Лютэя». Тут любяць не толькі тэатр, а ў першую чаргу тых, хто сюды прыходзіць. Гэты тэатр пачынаецца не «з вешалкі», а з рытуальнага рукапацiскання цудоўных маладых артыстаў, якія перадаюць сваю любоў і давер гледачам.

За перыяд існавання тэатра «Лютэя» былі пастаўлены такія псіхалагічныя спектаклі, як «Эльфійская казка», «Міжсезонне», «Пяты час года», «Залюстроўе майго дзяцінства», «Крылы ў падарунак», «Калядная казка», «Крылы для анёла» ды інш.

Мастацкая дзейнасць тэатра «Лютэя» прадугледжвае не толькі пастаноўку спектакляў, але і арганізацыю канцэртных праграм для дзяцей, беларускія абрады і абрадавыя спектаклі (тэатральны праект «Купальская ноч»), падрыхтоўку тэатралізаваных святаў (дзень нараджэння), правядзенне праекта «Звычка быць шчаслівым».

Не менш цікавая і сацыяльна-тэрапеўтычная дзейнасць, якая ўключае псіхалагічныя і сацыяльна-педагагічныя трэнінгі, тэатралізаваныя сацыяльна-псіхалагічныя гульні дыягнастычна-карэктоўнага кірунку (сюжэтна-ролевыя гульні для дарослых і дзяцей) ды інш.

Тэатр «Лютэя» пакуль не мае асобнага будынка, затое ўжо знайшоў прыхільнікаў і мецэнатаў. Такі тэатр патрэбны сёння: ён лекуе душу, нашу псіхіку, робіць чалавека больш добрым і дасканалым. Аналагаў у гэтага праекта няма, ён займае ў тэатральнай прасторы сваю нішу.

**Святлана ГАНЧАРОВА-ГРАБОЎСКАЯ**

# Усмешка шчасця

## Яўген Ціханаў паказаў творы, што пісаў для сябе

**Творы беларускага мастака Яўгена Ціханава цалкам напоўненыя дабрынёй, радасцю. Некаторыя з іх экспануюцца на выстаўцы «Шчасце ёсць» у Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры».**

Тут прадстаўлены творы, якія не выстаўляліся раней (захоўваліся ў майстэрні). Мастак прызнаецца, што пісаў іх у добрым настроі дома ці на лецішчы для сябе. Атрымалася экспазіцыя, і выставачная прастора галерэі нібыта напоўнілася фарбамі пазітыву.

— Мне вельмі складана ўспрымаць жорсткасць і негатыў, — прызнаецца мастак. — Таму хацелася, каб выстаўка атрымалася радаснай, каб усміхаліся госці, каб усміхаўся я. Гэты мастацкі праект — мая ўсмешка, пасыл дабрыні, шчырасці. Яго назва «Шчасце ёсць» азначае, што я шчаслівы таму, што займаюся любімай справай. Мне можна не плаціць, я ўсё роўна буду займацца мастацтвам, бо гэта маё жыццё і натхненне. Я ніколі не называў сябе мастаком ад Бога, але ж ува мне жыве вялікі запал да мастацтва, і я гатовы прысвяціць яму сябе назаўсёды.



Фота Кастуся Дробава.

Яўген Ціханаў.



Яўген Ціханаў «Крэсла бацькі».

Любоў да творчасці закладвалася яшчэ ў дзяцінстве. Бацька — знакаміты беларускі майстар Іван Ціханаў. А ў студэнцкія гады выпала павучыцца ў такіх знакамітых беларускіх мастакоў, як Леанід Шчамялёў, Барыс Аракчэеў, якія таксама паўплывалі на яго станаўленне, фарміраванне почырку і мастацкага густу.

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца адзначыў, што Яўген Ціханаў вельмі глыбока адчувае прыроду, разумее яе мову, таму і палотны яго атрымліваюцца шчырымі, нават пяшчотнымі. Але ў прадстаўленай экспазіцыі пейзажаў няшмат, затое вялікая колькасць жаночых партрэтаў. Ёсць творы, якія здзівяць тых, хто даўно сочыць за творчасцю гэтага мастака.

— Я жывапісец па адукацыі. Гэта і ёсць мая асноўная спецыяльнасць. Аднак людзі на маіх палотнах невыпадковыя. Каля дваццаці гадоў я знаходжуся ў жаночым калектыве, назіраю розных дзяўчат, якімі проста немагчыма не захапляцца, — адзначае Яўген Ціханаў. — І некаторыя з іх мяне так натхняюць талентамі, знешнімі рысамі, што я гатовы ісці за імі з пэндзлем. Некаторыя вобразы трансфармую ў гістарычны сюжэт. Напрыклад, адна з гераінь, якую вы можаце бачыць на маіх творах, распавядала мне, што ў яе ёсць сваякі з казакаў, дзядуля нават быў атаманам. І, сапраўды, у яе твары прасочваюцца ўсходнія рысы. Калі я гэта заўважыў, адразу ж для сябе развіў гісторыю. Вядома, у творы яна не адразу прачытваецца, але праз асобу, вобраз я імкнуўся стварыць атмасферу, у якой глядач зможа ўсё зразумець.

Яўген Ціханаў — чалавек светлы, здольны захоўваць любоў у душы, нягледзячы на розныя абставіны. Ён не прэтэндаваў на тое, каб быць папулярным. Ды майстэрства і талент не засталіся незаўважнымі: творы Яўгена Ціханава знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў, калекцыях дыпламатычных прадстаўніцтваў, прыватных зборах розных краін свету.

Сёння мастак выкладае студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, вучыць іх таксама быць шчырымі, адданымі справе. Многія вучні Яўгена Ціханава сталі знакамітымі беларускімі мастакамі і ўдзячныя свайму настаўніку за веды і досвед.

**Вікторыя АСКЕРА**



Яўген Ціханаў «Шчасце ёсць».

### Культурны ракурс

**Першая ўсходнееўрапейская асветніца Ефрасіння Полацкая лічыцца нябеснай заступніцай беларускага народа. У Мінску ёсць два помнікі гэтай вялікай жанчыне. Першы з іх знаходзіцца ва ўнутраным дворыку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Другі размяшчаецца каля ўвахода ў навукова-вытворчае аб'яднанне «Агат», непадалёк ад станцыі метро «Маскоўская». Помнік з'явіўся тут адносна нядаўна — пятнаццаць гадоў таму. Яго аўтар — вядомы беларускі скульптар Анатоль Арцімовіч.**

**Варта адзначыць, што скульптура незвычайная. У ёй спалучаюцца вобразы святасці і зямнога. У руках у Ефрасінні — крыж Лазара Богшы, сімвал веры. Папараць за спінай — атрыбут паганскай сімволікі. На плячах Ефрасінні Полацкай сядзяць два галубы. Як вядома, гэтая птушка атаясамляе святы дух. Помнік надзвычай папулярны сярод гараджан і турыстаў, якія наведваюць Беларусь: па-першае, ён самы незвычайны з усіх помнікаў Ефрасінні, а, па-другое, шмат у чым адлюстроўвае каларыт і самабытнасць беларускай культуры.**



**Ефрасіння Полацкая, слава, прыгажосць і мудрасць якой абышлі ўвесь свет, рана сышла ў манашкі. Прыняўшы імя Ефрасіння, яна жыла ў адным з сабораў Полацка, перакладала кнігі і малітвы з іншых моў, стварыла жаночы манастыр, які пазней стаў асветніцкім цэнтрам, а таксама мужчынскі. Заснавала першую школу пры манастыры, дзе дзеці маглі вучыцца грамаце, ткаць, маляваць. Менавіта Ефрасіння Полацкая замовіла ў майстра крыж, які пасля стаў святыняй для беларускіх земляў. Гэты крыж знік падчас вайны і дагэтуль не знойдзены. Копія крыжа захоўваецца ў Полацку.**

**Раіса ВАСКЕВІЧ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
20.04.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1561.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1417

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2017
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2017
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2017


ISSN 0024-4686